Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 33 (4731) 23 жніўня 2013 г.



Медаль за дыялекталогію 9



Я. Л. Вішнеўскі: «Хачу кнігу па-беларуску» 10



Што такое «дудл»? 12



Быхаў запрашае ў мінулае 14

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў з адкрыццём XV Міжнароднага з'езда славістаў удзельнікаў і гасцей форуму. «Славянскі свет — наша агульная духоўная Айчына, якая аб'ядноўвае мільёны людзей. На вучоных-славістаў ускладзена пачэсная місія: берагчы і памнажаць скарбы мудрасці і культуры, садзейнічаць распаўсюджванню ведаў пра славянскія народы. Вы з гонарам выконваеце яе і падтрымліваеце агонь, які запалілі першаасветнікі Святыя Кірыла і Мяфодзій. Сімвалічна, што месцам правядзення юбілейнага форуму абрана Беларусь — сэрца славянскай цывілізацыі, якая робіць важкі ўнёсак у захаванне яе каштоўнасцей і ідэалаў. Беларусы берагуць гэту спадчыну і заўсёды памятаюць пра тое, што толькі разуменне ўнікальнасці кожнай нацыі і яе духоўных здабыткаў не дасць братам-славянам страціць сябе ў глабалізаваным свеце», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Амерыканскае выданне «Flavorwire» ўключыла Нацыянальную бібліятэку Беларусі ў рэйтынг фантастычных архітэктурных работ. У рэйтынгу «Flavorwire», які змяшчае 20 твораў архітэктуры, Нацыянальная бібліятэка Беларусі займае 11-е месца. Апісваючы яе будынак, выданне адзначае, што тут ёсць уласная аглядная пляцоўка, а ў чытальных залах могуць размясціцца 2000 чалавек.

✔ Мастацкая выстаўка «Слова» і кніжная «Спачатку было слова», прысвечаныя 1150-годдзю славянскага пісьменства, адкрыліся ўчора ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. На першай, якая размясцілася ў галерэі «Лабірынт», можна даследаваць феномен узаемапранікнення выявы і тэксту ў сучасным беларускім мастацтве. Каліграфія старажытных рукапісных кніг з іх мудрагелістымі літарамі і маляўнічымі мініяцюрамі — з'ява, уласцівая славянскай культуры з глыбокай старажытнасці, не забываецца і цяпер. На тэматычнай кніжнай выстаўцы «Спачатку было слова» прадстаўлена амаль 200 кніг, якія расказваюць пра ўзнікненне і развіццё пісьменства на славянскіх землях.

✔ Магілёўскі абласны мастацкі музей імя П. В. Масленікава падрыхтаваў да XX Дня беларускага пісьменства насычаную праграму, каб распавесці пра Магілёўшчыну, выкарыстоўваючы глыбокі гістарычны кантэкст. На адной з пляцовак пад назваю «Вернісаж мастацкіх твораў: гісторыя і спадчына роднага краю» будуць выстаўлены творы мастакоў, якія ў розны час працавалі ў Быхаве і яго навакольлях, работы з краявідамі Мсціслаўля і Шклова, выкананыя мастакамі — удзельнікамі міжнародных пленэраў «Краявіды Радзімы ў выяўленчым мастацтве». Яшчэ адзін падарунак гасцям свята — рэканструкцыя батлейкі канца XIX ст. з вёскі Быч колішняга Быхаўскага павета.

✔ Завершаны здымкі двухсерыйнай тэлевізійнай кінастужкі «Дзяржаўная мяжа: Апошні шпіён. Фільм адзінаццаты». Дзеянне разгортваецца ў пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя на фоне развалу СССР. Рэжысёрам-пастаноўшчыкам выступіў Ігар Чацверыкоў. Сцэнарый напісаў Валянцін Залужны пры ўдзеле Іллі Цофіна і Ігара Чацверыкова. У галоўных ролях — беларускія і расійскія акцёры. Выхад новай стужкі запланаваны на першую палову 2014 года. Усяго ў новы сезон «Дзяржаўнай мяжы» ўвойдзе восем карцін.

Падрыхтавала **Міра ІЎКОВІЧ**



Фота Кастуся Дробава

# З'езд адкрыты!




**У канцэртнай зале «Мінск» адбылося ўрачыстае адкрыццё XV Міжнароднага з'езда славістаў. Удзельнікамі і гасцямі гэтага надзвычай прэстыжнага навуковага форуму сталі каля 600 вучоных-славістаў з 35 краін свету. Цягам тыдня ў Мінску падчас пленарнага і секцыйных пасяджэнняў, тэматычных блокаў, «круглых сталоў», пасяджэнняў камісій будуць абмяркоўвацца самыя актуальныя пытанні славістыкі, нараджацца новыя міжнародныя праекты, наладжвацца навуковыя кантакты.**

Месцам правядзення Міжнароднага з'езда славістаў наша краіна стала ўпершыню, таму цалкам лагічна, што цырымонія адкрыцця з'езда прайшла на высокім узроўні. Так, прывітальнае слова ўдзельнікам і гасцям з'езда ад Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі зачытаў Першы намеснік Кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Беларусі Аляксандр Радзькоў.

З прывітальнымі словамі да гасцей і ўдзельнікаў з'езда звярнуліся таксама Міністр культуры Рэспублікі Беларусь Барыс Святлоў, Міністр адукацыі краіны Сяргей Маскевіч, намеснік Старшыні Прэзідыума Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Уладзімір Гусакоў, арцыбіскуп Мінска-Магілёўскі Мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч, было зачытана і прывітальнае слова ад Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі, Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта. Адметна таксама, што сваё вітанне ў Мінск перадалі Народны сход Балгарыі, а таксама Міністр навукі і адукацыі Балгарыі. Іх зачытаў старшыня балгарскага фонду «Славяне» прафесар Захары Захарыеў.

Падчас цырымоніі адкрыцця форуму нават у прывітальных словах навукоўцаў ужо былі акрэслены і некаторыя пытанні галіны, якія яшчэ будуць абмяркоўвацца падчас з'езда. Так, старшыня Расійскага нацыянальнага камітэта славістаў акадэмік Аляксандр Малдаван падкрэсліў практычную значнасць правядзення з'ездаў. Сёння славісты плённа працуюць над стварэннем слоўнікаў, дыялекталагічных атласаў розных моў, але ёсць і больш маштабная задумка — стварэнне адзінага корпуса славянскіх моў, дзе ў агульным доступе на спецыяльным інтэрнэт-партале была б змешчана як мага больш шырокая інфармацыя пра славянскія мовы, іх дыялекты. З'езды славістаў — добрая нагода і магчымасць абмеркаваць такія маштабныя міжнародныя праекты.

З прывітальным словам падчас адкрыцця міжнароднага форуму выступіў і старшыня Германскага нацыянальнага камітэта славістыкі прафесар Герд Хентшэль. Яго прамова змяшчала не толькі традыцыйныя вітальныя словы, але і прапанову змяніць спецыфіку структуры з'езда, зрабіць яе больш сучаснай. Так, замест выдання нацыянальных зборнікаў дакладаў напярэдадні форуму спадар Герд Хентшэль прапанаваў рыхтаваць міжнародныя зборнікі ўжо па выніках работы з'езда, выбіраць для публікацыі ў іх самыя цікавыя і актуальныя даклады. Гэта павысіла б узровень міжнароднай славістыкі. Абмежаванасць аб'ёму такога зборніка магла б кампенсавацца публікацыяй матэрыялаў форуму ў шматлікіх навуковых філалагічных часопісах, у тым ліку новых, што выходзяць у розных славянскіх краінах. Прапанавана таксама адмяніць квоту ўдзельнікаў з'езда ад кожнай краіны. Замест яе прапануецца конкурсны адбор дакладаў з наступным удзелам у з'ездзе.

Але не толькі з'езд мусіць змяніць свой фармат, у будучыні можа змяніцца і сам прадмет даследавання славістыкі як навукі. Цяпер гэта ў асноўным інтэгратыўнае, кампаратыўнае вывучэнне розных славянскіх моў, літаратур, культур, але прапануецца з цягам часу пад паняццем «славістыка» аб'яднаць, сабраць вывучэнне кожнай са славянскіх краін: русістыку, беларусістыку, паланістыку. Вырашэнне такіх пытанняў — задача не толькі для дыскусіі ў Міжнародным камітэце славістаў, але і для абмеркавання падчас правядзення самога з'езда.

Думаецца, што ад падобнага маштабнага міжнароднага форуму можна чакаць і значных вынікаў — нараджэння новых праектаў, далейшай распрацоўкі надзвычай актуальных пытанняў галіны, многія з якіх хвалююць не толькі вучоных-філолагаў, гісторыкаў, фалькларыстаў і культуролагаў, але і шырокую грамадскасць. Таму застаецца толькі пажадаць: плённай працы, форум!

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Прафесія: славіст

XV Міжнародны з'езд славістаў, што праходзіць у Мінску, аб'яднаў навукоўцаў, якія прадстаўляюць розныя краіны. Чаму менавіта ў галіне славістыкі палягае іх асноўны навуковы інтарэс, якая тэматыка дакладаў для навуковага форуму, ці першае гэта знаёмства з нашай краінай? З такімі пытаннямі карэспандэнт «ЛіМа» звярнулася да ўдзельнікаў навуковага форуму.



**Прафесар Карын Алавердзьён, Бельгія:**

— У маім выпадку славістыка спачатку была толькі часткай прафесіі. Я родам з Арменіі. У Ерэване калісьці спалучала навучанне на факультэце рускай мовы і літаратуры і факультэце замежных моў. У той час я яшчэ не ведала, што буду жыць у Еўропе, а потым, ужо пасля пераезду, пачала працаваць на рускім аддзяленні секцыі славянскіх моў і літаратур Брусэльскага свабоднага ўніверсітэта.

Апошнія пяць-шэсць год займаюся вывучэннем творчасці Льва Талстога. У мяне ўжо выйшла кніга, прысвечаная гэтаму аўтару, маю каля дзясятка навуковых артыкулаў. У Мінску падчас з'езда буду казаць пра неверагодные мноства дэталяў у рамане Талстога «Ганна Карэніна». Пастараюся знайсці адказы на пытанні: з якой мастацкай, эстэтычнай, кампазіцыйнай мэтай гэтыя дэталі ўводзяцца ў раман і як яны працуюць.



**Прафесар Гары Вальтэр, Германія:**

— Я заўсёды цікавіўся мовамі. Праўда, маёй першай мовай была англійская, а рускую не зусім хацеў вывучаць. З цягам часу стала больш і больш падабацца руская мова, таму я перайшоў на славістыку. Ва ўніверсітэце яе вывучаў, а цяпер выкладаю ў Грайфсвальдскім універсітэце імя Эрнста Морыца Арнта. Мінск, Беларусь — вялікі цэнтр славістыкі, гэта ведаюць ва ўсёй Еўропе, і для нас вельмі прэстыжна быць менавіта ў вашых мясцінах.

Мае навуковыя інтарэсы палягаюць у галіне вывучэння фразеалогіі. Падчас з'езда я прачытаю даклад на тэму «Нацыянальнае і інтэрнацыянальнае ў славянскай фразеалогіі». Усходнія славяне лічаць, што ў фразеалогіі іх моў вельмі многа нацыянальнага, тыповага для славян. Але на еўрапейскім фоне апынаецца, што гэта далёка не так. У нас намнога больш, чым мы думаем, агульнага, еўрапейскага, антычнага, запазычанага з латыні. Нават можна сцвярджаць, што фразеалогія — у некаторым сэнсе люстэрка нашага сумеснага існавання, сумеснай культуры і супрацоўніцтва. Нас намнога больш аб'ядноўвае, чым падзяляе. Гэта можна даказваць менавіта на прыкладах мовы.



**Юмі Ніномія, Японія:**

— Я выкладаю балгарскую мову ва ўніверсітэце Сока (Токіа). Паміж нашым універсітэтам і ўніверсітэтам у Сафіі (Балгарыя) існуе праграма абмену студэнтамі. Лёс склаўся так, што і я на працягу васьмі год вывучала балгарскую мову ў Сафіі.

Гэты з'езд славістаў у Мінску для мяне ўжо трэці — брала ўдзел у падобных навуковых форумах у Славеніі і Македоніі. Я ніколі раней не была ў Беларусі. Але яшчэ ў Парыжы ў аэрапорце бачыла людзей з Мінска. Заўважыла, што ў іх вельмі прыгожыя вочы і яны шмат усміхаюцца. Таму, думаю, ваша краіна мне таксама вельмі спадабаецца.

**Марына ВЕСЯЛУХА, фота аўтара**

# Мост дружбы

У Выдавецкім доме «Звязда» пабачыў свет «Літаратурны альманах», у якім на рускай і беларускай мовах надрукаваны творы лаўрэатаў I Міжнароднага літаратурнага конкурсу маладых літаратараў Саюзнай дзяржавы Расіі і Беларусі «Мост дружбы», заснаванага Пастаянным камітэтам Саюзнай дзяржавы.

**Сяргей ШЫЧКО**

Ва ўступным слове да зборніка Дзяржаўны сакратар Саюзнай дзяржавы Рыгор Рапота зауважае: «Няма ніякага парадоксу ў тым, што ў эпоху інтэрнэту, як ніколі «гаваркую» на меркаванні і самавыяўленне ў сетцы, мы з дапамогай сталых пісьменнікаў, літаратуразнаўцаў і прадстаўнікоў выдавецтваў шукаем і знаходзім адораных маладых людзей, якія імкнуцца працаваць над словам і вобразамі, займець літаратурны погляд на жыццё, не абмяжоўваючыся інфармацыйнай плынню, а вымераць яе глыбіню.

Мне пашчасціла назіраць за тым, як энтузіясты, у першую чаргу Прэзідэнт Асацыяцыі «Пазнаём Еўразію», прафесар Антоніа Фаліка, ажыццявілі такі праект з удзелам маладых італьянскіх і расійскіх аўтараў. Яго поспех пераканаў нас у неабходнасці перанясць гэты вопыт і правесці падобны конкурс у межах Саюзнай дзяржавы, якая, як вядома, аб'ядноўвае Беларусь і Расію — дзве краіны з наймацнейшымі літаратурнымі традыцыямі, непарыўна звязаныя з імёнамі Аляксандра Пушкіна і Фёдара Дастаеўскага, Максіма Горкага, Якуба Коласа, Янкі Купалы…» І далей: «Не кожная краіна можа ганарыцца тым, што ў яе ёсць Вялікая літаратура. У Расіі і Беларусі яна ёсць…»




Журы конкурсу «Мост дружбы» ўзначаліў рэктар Літаратурнага інстытута імя М. Горкага Барыс Тарасаў. У экспертны савет увайшлі доктар філалагічных навук Анатоль Андрэеў, намеснік дырэктара РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» — галоўны рэдактар часопіса «Нёман» Алесь Бадак, шэф-рэдактар дадатку «Лад» у «Літературной газете» Алесь Кажадуб, прэс-сакратар Дзяржаўнага сакратара Саюзнай дзяржавы Алена Аўчарэнка, рэктар Літаратурнага інстытута імя М. Горкага Барыс Тарасаў, галоўны рэдактар часопіса «Вестник детской литературы» Аляксандр Торапцаў. У «Літаратурны альманах» увайшлі творы маладых пісьменнікаў Расіі — Маргарыты Катковай, Сяргея Лагодзіна, Аляксандра Масквіна, Таццяны Трафімавай, Георгія Фаміна, пісьменнікаў Беларусі — Мікалая Андрэева, Алёны Беланожкі, Дар'і Вашкевіч, Маргарыты Латышкевіч, Вольгі Чэркас. Перакладчыкам твораў на беларускую мову выступіла Таццяна Сівец.

Альманах з'яўляецца новым словам у рабоце Пастаяннага камітэта Саюзнай дзяржавы з маладымі пісьменнікамі. Будзем спадзявацца, што ў кнігі будзе працяг. Як, канечне ж, будзе працяг і ў конкурсу «Мост дружбы».

# Чакаецца цікавая размова

У межах Дня беларускага пісьменства 31 жніўня пройдзе VII міжнародны «круглы стол» «Мова і літаратура ў кантэксце гісторыка-культурнай спадчыны».

Падчас «круглага стала» будуць абмяркоўвацца пытанні развіцця нацыянальных літаратур і перспектыў міжнароднага літаратурнага супрацоўніцтва. Адбудзецца прэзентацыя кніжнага праекта РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» «Сугучча сэрцаў», які прымеркаваны да старшынства Рэспублікі Беларусь у Садружнасці Незалежных Дзяржаў.

Арганізатарамі зацікаўленай размовы выступаюць Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Саюз пісьменнікаў Беларусі, РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» і рэдакцыя часопіса «Нёман».

**Святлана СТРОК**

# На фотаздымках — паэтычны свет

**Раіса МАРЧУК**

Выстаўка з фондаў Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа «Пад небам Коласа» адкрылася ўчора ў мемарыяльным музеі Крысціёніса Данілайціса (Калінінградская вобласць Расіі).

Экспазіцыя арганізавана ў межах заключанага міжнароднага пагаднення аб творчым супрацоўніцтве паміж Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеем Якуба Коласа і Калінінградскім абласным гісторыка-мастацкім музеем. Прадстаўлены работы беларускіх фотамастакоў Васіля Зянько, Яўгена Казюлі, Уладзіміра Сіза, прысвечаныя родным мясцінам народнага паэта Беларусі Якуба Коласа.

Выстаўка «Пад небам Коласа» прапануе на зрокава-вобразным і эмацыйным узроўні праз фотаработы з вывяай родных мясцін творцы адчуць паэтычны свет Песняра, як быццам зазірнуць у глыбіню яго душы, адчуць і ўспрыняць лірычную цеплыню яго творчасці. Сёлета спаўняецца 90 гадоў з таго часу, калі пабачыла свет паэма Якуба Коласа «Новая Зямля», але цікавасць да коласаўскай «энцыклапедыі сялянскага жыцця» не змяншаецца. Кожнае новае пакаленне адкрывае ў паэме штосьці сваё, раней не заўважанае або належным чынам не ацэненае. Такі лёс вялікіх эпахальных твораў. Шмат агульнага ў «Новай зямлі» з паэмай «Чатыры пары года» Крысціёніса Данілайціса, і не толькі ў сэнсе духоўным, але і ў выяўленні самых звычайных рэалій жыцця.

Два вялікія паэты былі знанымі песнярамі роднага краю, класікамі нацыянальных літаратур. Малаважным бачыцца той факт, што час прыходу іх у жыццё раздзяляе амаль 200 гадоў. Галоўнае — наколькі яны ўсвядомілі неабходнасць выяўлення чалавека, часу і радзімы ў сваёй творчасці. Таму нездарма фотавыстаўка з фондаў музея Якуба Коласа размесціцца ў мемарыяльным музеі класіка літоўскай літаратуры, а напрыканцы года мінскі глядач зможа бліжэй пазнаёміцца з асобай К. Данілайціса на экспазіцыі, прысвечанай 300-годдзю з дня нараджэння знакамітага паэта.

# Насуперак глабалізацыі

У якасці арганізатараў XV Міжнароднага з'езда славістаў выступілі Міжнародны камітэт славістаў, Беларускі камітэт славістаў, Нацыянальная акадэмія навук Беларусі. Пра адметнасці працы гэтага надзвычай прэстыжнага навуковага форуму, кола актуальных пытанняў славістыкі, а таксама асаблівасці беларускага ўдзелу ў з'ездзе — наша гутарка з першым намеснікам дырэктара Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, старшынёй Прэзідыума Міжнароднага камітэта славістаў Аляксандрам Лукашанцам.

**— Аляксандр Аляксандравіч, чаму менавіта Мінск быў выбраны ў якасці месца правядзення чарговага Міжнароднага з'езда славістаў?**

— Гэта адбылося зусім не выпадкова. Міжнародныя з'езды славістаў — самыя буйныя навуковыя форумы, на якіх разглядаюцца пытанні развіцця славянскіх моў, літаратур, культур і фальклору. Праводзяцца рэгулярна кожныя пяць гадоў у славянскіх краінах па чарзе. Першы з'езд адбыўся ў 1929 годзе ў Празе, і да гэтага часу форумы ўжо прайшлі амаль ва ўсіх славянскіх краінах. Дарэчы, апошнія з'езды славістаў праходзілі ў новых славянскіх краінах, якія з'явіліся ў канцы XX ст. У 1993 годзе XI Міжнародны з'езд славістаў адбыўся ў Браціславе (Славакія), у 2003 годзе XIII з'езд — у Любляне (Славенія), у 2008 годзе XIV — у Охрыдзе (Македонія). Магу дадаць, што такія з'езды праходзілі ў свой час у Маскве, у 1958 годзе, і ў Кіеве, у 1982 годзе. Беларусь фактычна засталася адной з нямногіх краін, у якіх з'езды яшчэ не праводзіліся. З аднаго боку, падыходзіць наша чарга, з іншага ж, кожная славянская краіна лічыць за гонар прыняць такі вялікі і надзвычай важны міжнародны навуковы форум. Таму правядзенне ў нашай сталіцы XV Міжнароднага з'езда славістаў — гэта яшчэ і сведчанне таго, што Беларусь з'яўляецца самастойнай славянскай краінай са сваёй адметнай нацыянальнай культурай, мовай, літаратурай. Яна прызнаецца краінай, у якой на высокім узроўні развіваюцца даследаванні ў гэтым навуковым кірунку. Правядзенне з'езда важнае яшчэ і тым, што ён дазваляе паказаць нашы дасягненні, а таксама ўвесці беларускі спецыфічны моўны і літаратурны матэрыял у агульнаславянскі кантэкст.

Заканчэнне чытайце на стар. 8

# Сведчанні культуры штэтла

Выстаўка «Родам з мястэчка» адкрыецца ў Нацыянальным мастацкім музеі 24 жніўня.

Экспазіцыя з 50 твораў жывапісу і графікі з фондаў музея прысвечана юбілеям знакамітых ураджэнцаў Беларусі, вядомых палітычных дзеячаў Дзяржавы Ізраіль, лаўрэатаў Нобелеўскай прэміі міру — 90-годдзю дзеючага прэзідэнта Ізраіля Шымона Перэса і святкаванню 100-годдзя з дня нараджэння былога прэм'ер-міністра краіны Менахема Бегіна.

Назва выстаўкі не зусім дакладная ў плане рэальных пунктаў нараджэння юбіляраў. У дадзеным выпадку «мястэчка» хутчэй слова-сімвал «мяжы аселасці» ў цэлым і спецыфічнай нацыянальна-гістарычна-культурнай мадэлі-супольнасці.

Падобная выстаўка — першая ў гісторыі музея. Акрамя гэтай эксклюзіўнасці, экспазіцыя таксама дасць магчымасць паказаць гледачу унікальныя, дагэтуль малавядомыя творы, якія ў музеі ніколі не экспанаваліся, рэстаўрацыя шэрагу з іх скончана зусім нядаўна або працягваецца. Пачынае экспазіцыю пейзаж выхаванца Санкт-Пецярбургскай акадэміі мастацтваў Мейера Сляпяна «Цішыня», які быў напісаны на радзіме Шымона Перэса ў вёсцы Вішнева Валожынскага раёна. Узнёслая духоўнасць і драматызм гэтай карціны могуць служыць эпіграфам і камертонам дадзенай выстаўкі.

У экспазіцыі прадстаўлены творы, якія паказваюць герояў, падзеі нацыянальнага жыцця 1887 — 1975-х гадоў. Самыя раннія працы — амаль невядомых Ізраіля Крупеня і Іўе Дашкевіча. Годнае месца займаюць творы і іншых вядомых «акадэмістаў»: Юдэля Пэна, Янкеля Кругера, Лейбы Альпяровіча. Дзякуючы іх майстэрству і параўнальна вялікай колькасці захаваных работ, яны ўспрымаюцца ледзь не асноўнымі мастакамі Беларусі канца XIX — пачатку XX стст. Перыяд 1920 — 1930-х гадоў прадстаўлены карцінамі мастакоў Абрама Бразэра, Мейера Аксельрода, Арона Касцялянскага, Льва Зэвіна, Монаса Манасзона, Саламона Юдовіна, Ісаака Мільчына і Іллі Эйдэльмана. Работы гэтых майстроў цікавыя, у прыватнасці, як сведчанні сыходзячай культуры «штэтл» — яўрэйскага мястэчка. Пасляваенны перыяд прадстаўлены жывапісам Натана Воранава, Ізраіля Басава, Абрама Заборава, Ісаака Бароўскага, Барыса Няпомняшчага.


М. Аксельрод «Пейзаж з казой».

Завершыцца выстаўка, прысвечаная юбілеям знакамітых ураджэнцаў Беларусі, 30 верасня.

**Таццяна ЛАНКОЎСКАЯ**

## Ініцыятывы

# У Мірскім замку — музыка барока

Музычная летняя акадэмія «Дрэздэн — музыка пры двары Аўгуста Саксонскага» пройдзе з 26 па 31 жніўня ў «Замкавым комплексе «Мір». Унікальны культурны праект арганізаваны па ініцыятыве Інстытута імя Гётэ ў Мінску.

**Інеса ПЕТРУСЕВІЧ**

Каля 40 удзельнікаў акадэміі з Беларусі, Германіі, Галандыі, Расіі, Украіны і Польшчы правядуць апошні тыдзень жніўня ў сценах аднаго з самых папулярных музеяў Беларусі: у іх распараджэнне прадастаўленыя практычна ўсе залы старадаўняга замка. Пройдуць майстар-класы, прафесійныя дыскусіі, канцэрты.

«Музычныя тэмы пачатку XVIII стагоддзя выдатна гарманіруюць з убранствам музейных зал і экспанатамі нашай калекцыі, — распавяла дырэктар музея «Замкавы комплекс «Мір» Вольга Папко. — Усё гэта дапаможа гасцям, музыкам з розных краін, больш поўна адчуць атмасферу старажытнай эпохі. Некаторыя творы будуць выкананыя на аўтэнтычных прыладах, створаных каля трох стагоддзяў назад, — мы рыхтуем каралеўскі падарунак сапраўдным знаўцам музыкі!»

Мастацкае кіраўніцтва летняй акадэміяй ажыццяўляюць Сюзанна Рэгель (Германія, барочны габой) і Крыстафор Хамер (Германія / ЗША, клавесін). З беларускага боку іх падтрымлівае Уладзімір Неўдах (Беларусь, клавесін). У фокусе грандаў акадэміі будзе знаходзіцца музыка эпохі барока, якая зарадзілася ў часы культурнага росквіту дрэздэнскага двара Аўгуста Саксонскага, што сабраў у сваёй прыдворнай капэле самых віртуозных і вядомых музыкаў эпохі.

«Мы маем намер садзейнічаць абмену досведам паміж прафесійнымі музыкамі з розных краін, яшчэ раз прыцягнуць увагу аматараў музыкі да твораў эпохі барока, — пазначыў менеджар праекта, каардынатар аддзела культурных праграм Інстытута імя Гётэ ў Мінску Ігар Куксін. — А доступ у замак на перыяд працы акадэміі можа мець кожны жадаючы!»

Праект падтрыманы Беларускай дзяржаўнай акадэміяй музыкі, нямецка-беларускім эканамічным клубам і Польскім Інстытутам у Мінску.

## Конкурс

# Казкі са школьнага ранца

У часопісе «Бярозка», які выходзіць цяпер пад адной вокладкай з часопісам «Маладосць», пачынаецца новы літаратурны конкурс «Казкі са школьнага ранца», узяць удзел у якім могуць усе, каму яшчэ не споўнілася 18 гадоў. Казкі, вартыя, каб іх надрукавалі, абавязкова з'явяцца на старонках «Бярозкі».

У жніўні 2014 года, напярэдадні Дня беларускага пісьменства, прафесійнае журы вызначыць пераможцаў казачнага конкурсу, якія будуць узнагароджаны ганаровымі граматамі і каштоўнымі прызамі.

Да наступнага Дня беларускага пісьменства прымеркаваны і выпуск кнігі, куды ўвойдуць усе казкі, якія з'явяцца на старонках «Бярозкі». Апроч таго, на сайце часопіса будзе змешчана аўдыякніга лепшых казак у выкананні вядомых беларускіх артыстаў.

Юныя аўтары могуць дасылаць свае творы ў любым варыянце: на паштовы адрас: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19, рэдакцыя часопіса «Маладосць» (з паметай «Бярозка»), электронны — *maladost@bk.ru* або *bjarozka@mail.ru*.

Толькі не забудзьцеся ўказаць свае дадзеныя: прозвішча, імя, імя па бацьку, год нараджэння, хатні адрас і нумар тэлефона (хатняга або мабільнага).

Казачныя гісторыі, якія вы будзеце дасылаць, па-першае, павінны быць беларускамоўнымі, па-другое, невялікімі: адна, дзве старонкі.

# З любоўю да народнага мастацтва

Розныя віды студэнцкай творчасці прадстаўлены на выстаўцы дыпломных работ выпускнікоў кафедры народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў.


Фірысюк Ганна «Коні», кераміка. Кіраўнік — дацэнт БДУКМ Т. Васюк.

За час навучання на гэтай кафедры юнакі і дзяўчаты асвойваюць мастацтва традыцыйнага саломапляцення, ганчарства, керамікі, ткацтва, дэкаратыўнага роспісу і іншых відаў народнай творчасці. Для паспяховай падрыхтоўкі будучых спецыялістаў выкладчыкі кафедры распрацоўваюць і абнаўляюць праграмы па спецыяльных дысцыплінах з улікам найноўшых патрабаванняў навучальнага працэсу.

Прадстаўленыя творы дэманструюць іх высокі мастацкі і выканаўчы ўзровень, пранікнёную любоў да традыцый народнага мастацтва, сведчаць пра глыбокае веданне жыццёвага ладу беларусаў, сімволікі і міфалагічных вобразаў роднага краю. Прыгледзеўшыся да формы, тэкстуры і малюнка твораў мастакоў, можна заўважыць, што яны захавалі ў сабе адбітак светапогляду многіх пакаленняў.

Глыбокае веданне народных традыцый, іх пераасэнсаванне дапамагаюць стварыць вельмі сучасныя рэчы.

**Міра ІЎКОВІЧ**

## Абрысы

Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы запрашае 29 жніўня на ўрачыстае адкрыццё другой чаргі новай экспазіцыі «Шляхі». Яе стваральнікі імкнуліся прадставіць на якасна новым узроўні творчасць Песняра ў лёсавызначальныя для Беларусі 1920-я гады, раскрыць драматургічную спадчыну, яе ролю ў гісторыі і сучаснасці нацыянальнага тэатра, адлюстраваць жыццё паэта ў Мінску, які стаў для Купалы родным горадам з 1919-га па 1941 год. Наведвальнікі музея змогуць з дапамогай сучасных інфармацыйных тэхналогій пазнаёміцца з рарытэтнымі прадметамі музейных калекцый, убачыць Мінск часоў паэта, здзейсніць падарожжа па яго мінскіх адрасах, наведаць інтэрактыўную зону «Хлопчык і лётчык», створаную для дзяцей.

Сёння ў Зэльве пачынаецца «Ганненскі кірмаш», які мае слаўныя традыцыі яшчэ з XVIII ст., калі ў мястэчка кіраваліся купцы з усёй Еўропы. Сёлетні двухдзённы кірмаш стане карысным для вытворцаў і аматараў народнай творчасці, спартсменаў і турыстаў. У цэнтральным скверы прадстаўлены дасягненні раённых Дамоў рамёстваў і народных майстроў, працуюць мастацка-музычная і спартыўная пляцоўкі, чакаецца майстар-клас па рэгіянальных танцах. На заўтра запланаваны тэатралізаваны паказ на галоўнай плошчы і іншыя цікавыя мерапрыемствы. Свае работы прадэманструюць таксама разьбяры па дрэве.

Упершыню ў Музеі горада Гомеля экспануюцца работы Валерыя Ражнова. На выстаўцы прадстаўлены гарадскія і марскія пейзажы, нацюрморты, партрэты касманаўтаў, прамысловыя чарцяжы, схемы, эскізы камбайнаў, станкоў, інтэр'ераў вытворчых памяшканняў, дызайнерскія распрацоўкі, фотаздымкі скульптур і інш. Валерый Ражноў як самадзейны мастак-графік працуе ў тэхніцы пастэлі. Прафесійную адукацыю атрымаў у Ленінградскім вышэйшым мастацка-прамысловым вучылішчы імя В. І. Мухінай, з 1987 года — член Саюза дызайнераў СССР. Сёння яго работы знаходзяцца ў прыватных калекцыях Германіі, Францыі, Чэхіі, Славеніі, Ізраіля, ЗША.

Гасцямі выстаўкі «Майстар, настаўнік, вучань» у Расійскім цэнтры навукі і культуры ў Мінску, якая адкрыецца 2 верасня, стануць сталічныя школьнікі. Для іх гэта будзе першы ўрок у новым навучальным годзе. У экспазіцыі сабраны творы людзей, шчыра адданых музе. Будзе прадстаўлены жывапіс і графіка Барыса і Аксаны Аракчэевых, жывапіс і батік Святланы Дубавец (выстаўляецца ўпершыню).

# Гімн вёсцы

Пяру Васіля Шырко належаць звыш двух дзясяткаў таленавітых кніг, напоўненых любоўю да роднага краю, цеплынёй і трапяткім стаўленнем да людзей — выбітных землякоў і знакамітых асоб Беларусі, многіх з якіх пісьменнік асабіста добра ведаў.


Фота Яўгена Коктыша

Нарадзіўся пісьменнік на маляўнічай Уздзеншчыне ў сялянскай сям'і. І ўжо ў першых кнігах В. Шырко — «Землі бацькоўскай прыцягненне» (1987) і «Сцяжына да людзей» (1989) выразна акрэслілася галоўная тэма творчасці — беларуская вёска і гаспадаранне на зямлі. Героі яго нарысаў — рэальныя асобы, паспяховыя кіраўнікі гаспадарак, якія стварылі належныя ўмовы для працы вяскоўцаў. Пісьменнік выдатна перадаў дух часу, аб'ектыўна паказаў напружаны рытм жыцця ў калгасах і саўгасах, прафесіяналізм людзей, намаганнямі якіх ствараліся прыбытковыя сельгаспрадпрыемствы.




Як удумлівы аналітык, В. Шырко адным з першых у нацыянальнай літаратуры выказаў пратэст супраць праграмы ліквідацыі «неперспектыўных» вёсак, што непазбежна прыводзіла да незваротнага вынішчэння вялікага арэала народнай культуры. Гледзячы на занядбанне і заняпад невялікіх паселішчаў, пісьменнік у роспачы адзначае: «І ўсё ж сумна, бо ў гэтай маленькай вёсцы жылі казкі, тут кахалі, жаніліся, раджалі дзяцей…»

Ярка і поўна выявіліся талент і літаратурнае майстэрства В. Шырко ў цыкле вясковых апавяданняў «Хай людзі бачаць». У мастацкай форме пісьменнік прадставіў уласную філасофію народнага жыцця, заснаваную на глыбокай павазе да чалавека працы, шанаванні нацыянальнай культуры і традыцый, беражлівым стаўленні да прыроды і навакольнага асяроддзя.

Уласны духоўны досвед і ўсведамленне выключнай ролі бацькоў у жыцці кожнага чалавека дазволілі пісьменніку зрабіць па-сапраўднаму філасофскае абагульненне-павучанне, якое гучыць як гімн: «Пакуль жывуць бацькі, мы, іх дзеці, усё яшчэ маладыя, і неба высокае, і мары крылатыя, і будні светлыя. Не стане іх, узыдуць на небе зоркамі, а нам на зямлі стане горка і маркотна: апусцяцца ніжэй неба, аслабнуць крылы».

Пісьменнікам праўдзіва паказаныя розныя бакі сялянскага жыцця. У творы багата карнавальных сцэн, жартаўлі-




вых сюжэтаў, аповедаў пра розныя камічныя здарэнні — падман рамізнікаў Палікарпамзлодзеем, пакепліванні Валодзі Шута з жонкі, распусны лад жыцця мясцовага папа, дзіўныя паводзіны Кучука, які падчас акупацыі апранаў форму камісара і хадзіў у райцэнтр да немцаў… Пісьменнік невыпадкова акцэнтуе ўвагу на дасціпных жартах, анекдотах, ён слушна бачыць у народным гумары невычэрпную крыніцу жыццёвай энергіі.

Пры гэтым В. Шырко сумленна і аб'ектыўна піша пра нялёгкую долю працаўніка, пра цяжкасці калгаснікаў, асабліва ў пасляваенны час, калі яны плацілі невыносныя падаткі дзяржаве і выконвалі амаль рабскую працу. Маналог-споведзь маці пісьменніка — горкія словы праўды пра тагачасную сельскую гаспадарку і стаўленне дзяржавы да земляробаў: «Ты вот скажы, ці разумны гаспадар будзе ўвесь ураджай выграбаць са свірна, людзям, якія сеялі, жалі, малацілі, — ні грама, на насенне — ні грама… А ў нас выграбалі. За панамі такога не было». Роздум гераіні ўспрымаецца як голас народа.

> *Васіль Шырко адным з першых у нацыянальнай літаратуры паказаў, што пасля разгрому фашыстаў на Беларусі дзейнічалі атрады ідэйных барацьбітоў за незалежнасць рэспублікі, яе палітычны і духоўна-культурны суверэнітэт.*

Надзвычай каларытная навела «Бузук», напоўненая светлым гумарам, вясёлымі прыгодамі. Галоўны персанаж — ветфельчар Бузук — карыстаецца глыбокай павагай у вясковых людзей. Ён сапраўдны народны герой, які заўжды прыходзіць на дапамогу, нікому не адмаўляе і нікога не пакідае сам-насам з бядой.

В. Шырко закаханы ў родны край. Паэтычныя, узнёслыя словы пісьменніка пра луг яго дзяцінства, празваны людзьмі Пажарніцай: «І цвітуць, і радуюць вока пяшчотна-духмяныя краскі маёй зямлі беларускай: залатыя і сівыя, самотныя і вясёлыя, але сапраўды неўвядальныя».

Да ліку несумненных творчых здабыткаў аўтара належыць кніга «Дарагія мае землякі», якая ўключае арыгінальныя нарысы пра выдатных майстроў мастацкага слова Янку Купалу, Якуба Коласа, Кандрата Крапіву, Паўлюка Труса, Пятра Глебку, Алеся Пальчэўскага і Алеся Якімовіча. В. Шырко сабраў надзвычай цікавыя дакументальныя матэрыялы: успаміны родзічаў і сучаснікаў вядомых пісьменнікаў, асабістыя ўражанні ад сустрэч з імі. Аўтар паказаў вытокі таленту класікаў беларускай літаратуры, іх сувязь з фальклорам, увагу да самабытнага народнага слова. Кніга праліла святло на многія істотныя дэталі, абставіны і акалічнасці стварэння майстрамі слова шэдэўраў нацыянальнага прыгожага пісьменства.

В. Шырко імкнецца распавесці пра выбітных сучаснікаў,




энергічных творцаў і сумленных гаспадарнікаў, паказаць сапраўдных герояў нашага часу. Дакументальная аповесць «На скрыжаванні дарог і вятроў» прысвечана дзяржаўнаму дзеячу і яркай асобе — Аляксандру Іосіфавічу Дубко. Пісьменнік раскрыў абставіны сталення героя, паказаў яго характар.

Мужнасць, працавітасць уславіў ён у нарысе «Накаўт», дзе ў цэнтры ўвагі — нешараговая біяграфія Васіля Аляксандравіча Дадалкі.

Этапная з'ява ў творчасці В. Шырко — кніга «Шумі, мой лес, шумі» (2009), прысвечаная шчырым працаўнікам лясной гаспадаркі. Галоўны герой твора — Мікалай Вітальевіч Фурсевіч, начальнік Крупскага вайсковага лясгаса. Пісьменнік займальна распавядае пра штодзённыя клопаты і прафесійныя заняткі лесаводаў, іх жыццёвыя поспехі і асабістыя радасці, апявае дзівосную прыгажосць беларускіх лясоў, іх гаючую сілу, якая дае чалавеку радасць і супакаенне.

В. Шырко зрабіў важкі ўнёсак у развіццё нацыянальнай прыгодніцкай літаратуры. Пяру пісьменніка належыць выдатная аповесць «Брыльянтавая брошка». У вострасюжэтным творы дзівосным чынам пераплятаюцца гісторыя і сучаснасць, высокае і нізкае, гераічнае і трагічнае.

У аповесці «Зелле ад скрухі» В. Шырко звяртаецца да трагічнай старонкі гісторыі Беларусі — знаходжання пад фашысцкай акупацыяй, паказвае гераічнае змаганне савецкіх людзей з захопнікамі, раскрывае псіхалогію здрады, незайздросны лёс тых, хто ступіў на хісткі мосцік супрацоўніцтва з ворагам. Галоўны персанаж Іван Ахрэмчык праходзіць праз неверагодныя




выпрабаванні і пакуты. Немцы з паліцаямі расстралялі яго родных — маці і бацьку, малодшых брацікаў і сястрычку, каханую дзяўчыну Кацю, але Іван застаецца верным чалавечым каштоўнасцям, стрымлівае сябе ад неапраўданай помсты родзічам паліцаяў, якія ўдзельнічалі ў расправе над самымі дарагімі для яго людзьмі.

Выключнае месца ў творчасці пісьменніка займае аповесць «Воўчыя грыбы», дзе праўдзіва адлюстраваны падзеі пасляваеннага часу. В. Шырко адным з першых у нацыянальнай літаратуры паказаў, што пасля разгрому фашыстаў на Беларусі дзейнічалі атрады ідэйных барацьбітоў за незалежнасць рэспублікі, яе палітычны і духоўна-культурны суверэнітэт. Гэта былі адукаваныя людзі, якія выдатна ўсведамлялі, што ленінскае разуменне нацыянальнага пытання — «самавызначэнне да поўнага аддзялення» — не можа быць рэалізавана ва ўмовах сталінскага таталітарызму. Яны мужна ішлі на смерць дзеля ідэі.

Творчым дасягненнем В. Шырко з'яўляюцца яго дзівосныя казкі, сабраныя ў кнізе «Дзед Манюкін і ўнукі» (2003). Адшліфаваныя майстрам мастацкага слова народныя аповеды пра жывёл, розныя паўфальклорныя гісторыі і загадкавыя, таямнічыя сюжэты напоўнены чароўным святлом, душэўнай цеплынёй і прыгажосцю. Вельмі ўдалыя ў мастацкім плане казкі В. Шырко, у аснове якіх — містычныя сюжэты. Напрыклад, «Блізнюкі», дзе паказваецца небяспека, якая пагражае людзям, калі яны ўступаюць у адносіны з нячыстай сілай, а «Чортаў млын» утрымлівае каларытныя апісанні чарцей — галоўных міфалагічных істот беларускага нацыянальнага фальклору.

В. Шырко мае адметны аўтарскі почырк. Мова яго твораў надзвычай арыгінальная і вобразная. Пісьменнік заўсёды да месца ўжывае красамоўныя выразы, народныя прымаўкі і прыказкі. Партрэтныя характарыстыкі вельмі трапныя, яны дакладна перадаюць душэўны стан і псіхалогію герояў. Малюнкі і апісанні падзей выразныя і сцэнічныя.

Творы В. Шырко — сапраўдны гімн вясковым паселішчам Беларусі, дзе дыхаецца лёгка і думкі цякуць свабодна. Традыцыйныя беларускія вёскі, з іх адметнай народнай архітэктурай і геаграфічным размяшчэннем, як правіла, каля рэчак, вадаёмаў і азёр, — натуральнае асяроддзе для жыцця і працы, найбольш прыдатнае месца для адпачынку і творчасці. Пісьменнік убачыў у звычайным вясковым побыце прадмет высокага эстэтычнага захаплення, небывалага хараства і гармоніі, чалавечай цеплыні і ўтульнасці.

Такім чынам, Васіль Шырко — майстра слова, які сцвердзіў сябе ў галіне публіцыстыкі і мастацкай прозы. Ён паспяхова працягвае лепшыя традыцыі рэалістычнай школы, напоўніцу выкарыстоўвае здабыткі рамантычнага метаду і мастацкі досвед карнавальна-сармацкай літаратуры.

Свой 65-гадовы юбілей пісьменнік сустракае ў выдатнай творчай форме, поўны цікавасці да мнагастайных праяў жыцця, гатовы парадаваць чытачоў новымі здзяйсненнямі.

**Іван САВЕРЧАНКА**

# Пра футбол і Конрада Валенрода




**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

Падаецца неверагодным убачыць «Полымя» на стале ў трэнера якой-небудзь юнацкай каманды альбо ў торбе са спартыўнай формай рухавага, вясёлага хлопца. З сёмым нумарам часопіса гэта абсалютна магчыма — дзякуючы аповесці Юрыя Станкевіча «Брамнік заўжды самотны». Галоўны герой твора — малады гулец беларускай футбольнай каманды Максім Гудаў, які з дзяцінства марыць стаць такім жа вялікім брамнікам, як парагваец Чылаверт. Аповесць разбіта на невялікія часткі: расповед пра жыццё і прафесійнае сталенне Максіма перапыняецца эпізодамі трыумфальнага матча з «Лёнам» на «Гранд-стадыёне» — і адмысловая кампазіцыя не дазволіць заінтрыгаванаму чытачу пакінуць твор недачытаным!

Безумоўная адметнасць аповесці — спартыўная тэматыка. Футбол паўстае тут сапраўдным майстэрствам — гэта штосьці сярэдняе між пластычным мастацтвам і геаметрыяй. Пісьменнік дэталёва апісвае тэхніку гульні, і беларуская мова атрымліваецца для гэтага цалкам прыналнай. У творы багата англамоўных спартыўных тэрмінаў і выразаў з моладзевага слэнгу, што нібы дапамагае аўтару (дый чытачу) адчуваць сябе сучасным, упэўненым і моцным.

Аднак Ю. Станкевіч выяўляе ў аповесці не толькі вялікі пісьменніцкі досвед, але і рэзка крытычнае стаўленне да розных праяваў сённяшняга жыцця. Галоўны герой настойліва дэманструецца як станоўчы і беззаганны (вось толькі часам «нядобра яхіднічае»), ён безумоўны прыклад для чытача гэтага не толькі цікавага, але і выхаваўчага, павучальнага твора. Выдатна, што хлопец любіць «Дзікае паляванне караля Стаха», з пагардай ставіцца да «шмалі» ды «калёсаў», вылучаецца глыбінёй мыслення («Але брамнік, як я даўно зразумеў, часам адзінокі. Нават — заўсёды самотны. Бо ён вартаўнік, і на ім адным адказнасць за тую браму, якую ён сцеражэ. Неістотна — якую»). Але катэгарычнасць Максімавых абагульненняў выклікае насцярожанасць: не ўсе хлопцы з дрэдамі — прыдуркі, не кожны спявак — «знакаміты дурапляс». І прыкра, вельмі прыкра, што суддзя Стайлз крыважэрны, а форвард Анры Базэн хітры ды «схільны да сімуляцыі»: «нашыя» звыкла пакрыўджаныя, «чужыя» — нядобрыя, але больш прафесійныя… Катэгарычнасць і дыдактызм у значнай ступені шкодзяць аповесці.

Аднак не толькі для аматараў футбола прывабны новы нумар часопіса! Няблага выглядае і гістарычная аповесць Уладзіміра Мажылоўскага «Па другі бок ценю». Твор напісаны на добрым узроўні, але пэўнае непаразуменне выклікае ключавая гісторыя са злачынствам знакамітага Конрада Валенрода. У вербную нядзелю ён напаў з крыжакамі на Ваўкавыск, хаця «з даўніх часоў у хрысціян існуе звычай: у святочныя дні, звязаныя з Хрыстом і Багародзіцай, ваенныя дзеянні не распачынаць, і парушэнне гэтага звычаю лічыцца святатацтвам і патрабуе суровага пакарання». Конрад ператвараецца ў прывід, які нясе смерць, і вось ратнік з войска Стэфана Баторыя выпраўляецца «вызваліць спакутаваную душу». Але з сённяшняга пункту гледжання забойства з'яўляецца злачынствам не толькі ў святы, і ахвярам крыжакоў было б не лягчэй паміраць на страснай сядміцы…

У паэтычных нізках варта вылучыць напісаныя паводле фальклорных матываў творы Уладзіміра Пецюкевіча, дасціпны верш Юркі Голуба «Паляванне», пераклады удмурцкага паэта Сяргея Мацвеева («Чырвонае і зялёнае», «Па дарозе, што ў вербах старых…»).

Вельмі разнастайныя матэрыялы прадстаўленыя ў другой частцы «Полымя»: гэта і цікавы артыкул Таццяны Кабржыцкай, прысвечаны гістарычнай прозе Людмілы Рублеўскай, і грунтоўная навуковая публікацыя Юліі Алейчанкі «Вершаванне ранняга Купалы», і падрабязныя ўспаміны Дзмітрыя Дземічава «Чарнобыль: першыя дні выпрабаванняў», дзе аўтар абвяргае беспадстаўныя, надуманыя абвінавачванні. Ігар Аўласенка прэзентуе нарыс жыцця і творчасці Аркадзя Куляшова, Серж Мінскевіч прафесійна распавядае пра літаратурны альманах «Белавежа» — так, што хочацца пагартаць гэтае выданне!

# Чарнобыль. Палын. Перабудова




**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ**

Ліпеньскі «Нёман» аказаўся багатым на змястоўныя публікацыі, што не дазваляе спыніць увагу толькі на адной з іх. Таму пагаворым пра тыя, якія найбольш зацікавілі.

Рэдакцыя распачала публікацыю рамана Леаніда Левановіча «Палыновы вецер», які ў перакладзе Андрэя Цяўлоўскага атрымаў назву «Ветер с горечью полыни». Прапанаваны фрагмент наўрад ці дае права даваць ацэнку ўсяму раману. Але пэўныя прамежкавыя высновы ўжо можна выказаць.

Дзеянне «Палыновага ветру» адбываецца на мяжы 1980 — 1990-х гадоў. У творы адчуваецца відавочны кантраст паміж сцэнамі, скажам так, «народнымі» (дзеянне якіх адбываецца ў чарнобыльскай зоне) і «грамадскімі» (звязанымі з распадам СССР, жнівеньскім путчам і асобай Андрэя Сахуты, сакратара абкама па ідэалогіі). Першыя падаюцца ўнутрана блізкімі аўтару. Таму немудрагелістыя радасці жыцця, звязаныя з гаспадарчымі справамі герояў, паходамі ў грыбы і ягады ды «бабіным летам», выглядаюць натуральна. Л. Левановіч дастаткова пераканаўча перадае псіхалогію вясковых жыхароў, якія займаюцца выключна сваімі справамі і не асабліва зважаюць на палітычныя катаклізмы.

А вось «грамадскія» старонкі часам бянтэжаць. Напрыклад, Андрэй Сахута пасля правалу путчу і забароны КПСС застаецца без працы, а праз пэўны час улаждкоўваецца… на пасаду галоўнага ляснічага радыяцыйнага лясгаса. Такі ход у рамане тлумачыцца сюжэтам. Аўтару хочацца нейк вырашыць канфлікт паміж Сахутам і яго жонкай. Дый пераплесці яго лёс з сюжэтнымі лініямі іншых герояў, якія жывуць у зоне.

Але калі Л. Левановіч стварае раман пра часы, што з'яўляліся лёсавызначальнымі для Беларусі, то заканамерна, каб яго героі былі дастаткова тыповымі для сваёй эпохі. Інакш кажучы, партыйны сакратар мусіць увасабляць катэгорыю «сумленных апаратчыкаў». Але ў рамане на першы план выходзяць як пабытавыя матывы, так і, няхай не крыўдуе аўтар, крыху пабытавае разуменне мінулага. Нават калі б выпадак з Сахутам меў месца, ён адлюстроўваў бы толькі, лічу, прыватную гісторыю. Бо ў рэальнасці партыйная эліта пасля распаду СССР імкнулася захаваць свае сацыяльныя пазіцыі. Зрэшты, каб зрабіць канчатковыя высновы, пачакаем завяршэння рамана.

Прыемныя ўражанні пакідаюць апавяданні Валерыя Гапеева з цыкла «Аднойчы ў Пачутаве» сваім іранічным прачытаннем фальклору, пэўнай стылізацыяй пад быліны і цудоўным гумарам. Наогул апошнім часам мы назіраем спробы пісьменніка выйсці за межы выключна дзіцячай і падлеткавай літаратуры. «Нёманская» апавяданні сведчаць пра перспектыўнасць такога павароту ў яго біяграфіі.

У блоку "Сусветная літаратура" ў "Нёмане" гэтым разам прадстаўленыя ўкраінскія творцы. З цікавасцю чытаецца гутарка Алеся Бадака з пісьменніцай Галінай Тарасюк. Размова дазваляе скласці пэўнае ўяўленне пра літаратурную сітуацыю ва Украіне, якая, як ні дзіўна, часткова нагадвае беларускую.

З тэкстаў найбольш рэкамендую вельмі тонкія і трапяткія апавяданні Уладзіміра Даніленкі «Вушы» і «Малюнак на замёрзлым акне». Яны пераносяць чытача ў гарманічнае дзяцінства галоўных герояў, якое свядома ці выпадкова разбураецца ўмяшальніцтвам дарослага свету.

Нарэшце звярну ўвагу на рубрыку «Дакументы. Запіскі. Успаміны», адну з самых цікавых у часопісе. Гэтым разам там прадстаўленыя ўспаміны двух вядомых творцаў. Пісьменнік Алесь Жук (твор «Запоўнены таварышамі бераг») падзяліўся згадкамі і разважаннямі пра Максіма Танка, Янку Брыля, Рыгора Семашкевіча, Яўгенію Янішчыц, Валянціна Блакіта і Міколу Улашчыка. А тэатральны крытык Таццяна Арлова («Вар'ятам спадарожнічае ўдача») распавяла пра эпізоды са свайго юнацтва, маладосці і сталых гадоў, што звязаныя з мінскім жыццём і ахопліваюць перыяд ад канца 1940-х і па сёння. Спадзяюся, што абодва тэксты не стануць шараговым падзеямі ў біяграфіі іх аўтараў, а пакрысе ператворацца ў вялікія кнігі ўспамінаў. Бо аўтарытэт А. Жука і Т. Арловай ды маштаб зробленага імі гарантуе цікавасць да акалічнасцяў іх жыцця.

# На краі быцця




**Алена КАРП**

Ліпеньская «Маладосць» апраўдвае сваю назву. Не ў кожным нумары сустрэнеш столькі дэбютантаў і пачаткоўцаў. Штопраўда, творы іх часта паспешлівыя (наўрад ці кожны з аўтараў задумваўся, дзеля чаго ён піша) і недаспелыя, як кіслы зялёны яблык. Але на тое гэта і першыя спробы. Магчыма, праз колькі год мы і не пазнаем у прызнаных пісьменніках аўтараў колішніх наіўных радкоў. Можа стацца і так, што імёны іх знікнуць з літаратурных хронік. Пакуль жа пакінем гэтыя першыя творы недатыкальнымі для крытыкі.

А вось малады Арцём Кавалеўскі ўжо даўно выбіўся са статусу «юны літаратар». «АдмыСЛОВЫя гульні» засталіся дзесьці вельмі далёка — не лішнім багажом, але абсалютна іншым досведам. Дзесяць гадоў, што аддзяляюць аўтара ад першага зборніка, відавочна, сталі гадамі пошуку і руху. У свежай падборцы «Прызма часу» ёсць тое невымоўнае, што завецца паэзіяй (асабліва хочацца адзначыць верш «Праз мае скамечаныя дні…»), выверaная і вельмі лагодная інтанацыя, лёгкасць, што невядома якой працай далася аўтару, і сакавітыя вобразы:

*Сакавік-праваканатар — паплечнік —*
*Сыпле зораў вязьмо ў мой заплечнік*
*І частуе падманлівым хлебам —*
*Лустай глебы, намазанай небам.*

«Цяжкая артылерыя» гэтага нумара — аповесць Андрэя Федарэнкі «Ціша». Яго проза даволі герметычная, такая рэч у сабе. Тым не менш гэта не замінае, наадварот, спрыяе розным варыянтам прачытання, часам неверагодным трактоўкам і пошукам нейкай адзінай ідэі. Нібы аўтар задаў арыфметычную задачу, на якую абавязкова мусіць быць *правільны* адказ, і прытым толькі адзін. Такая здольнасць стварыць шырокае поле для інтэрпрэтацый, пакінуць у тэксце паветра, напэўна, і ёсць адзнакай сапраўднага таленту. Але цікава, што часам інтэрпрэтатары даводзяць сваю рацыю так р'яна і катэгарычна, нібыта маюць больш паўнамоцтваў на тэкст, чым сам аўтар.

Між тым, Ігар Запрудскі вызначыў творчасць Андрэя Федарэнкі як неанатуралістычную, адзначыўшы: «Як заўважана не мною, неанатуралісты ненавідзяць любую ідэалогію — камуністычную, нацыянальную, хрысціянскую і г. д., ніколі і ні за што не агітуюць, увогуле адмаўляюць публіцыстычнасць і пафаснасць…» Пагаджуся з гэтай думкай. Сапраўды, Андрэю Федарэнку нібы зусім не прынцыпова нешта давесці чытачу, яму важней стварыць свой мастацкі свет цэласным, прамаляваным да драбніц і праўдападобным, прагаварыць тое, пра што думаецца.

«Дзікі Луг» з'явіўся нібы ад утрапення: чалавек смяротны, прытым раптоўна смяротны, і адначасова спадзявання на працяг. У «Тупіку» была вітальнасць маладых каштанаў, прага жыцця. «Ціша», падаецца, працягвае гэтае думанне пра жыццё, яго мяжу, якая яна, ці існуе наогул, ці ёсць нешта за ёю. Вялікая колькасць іншых тонка і вярэдліва абазначаных тут праблем усё ж такі пабочны прадукт. Новы твор — пра тую магільную цішу, якой усё скончыцца, але не назаўсёды. Бабуля Домна паўторыцца ва ўнуку Петрыку, і кожны чалавек паўторыцца, затрымаецца ў іншым. Аўтар гаворыць пра смерць, але не роспачна і пакутліва, а так, нібы кожны чалавек мусіць калісьці прыйсці да краю свайго быцця, зайсці на могілкі, пафарбаваць агароджу і падумаць: «Як гэта людзі без мяне будуць жыць, калі я памру?» — і суцешыць тых, хто адышоў: «Не бойцеся, я жыву замест вас! Я ўсё гэтак сама, як і вы, цюцелька ў цюцельку, адчуваю!» У сцэнах, што адбываюцца на могілках, няма трагізму: зялёны крыж «маладзеў, распроствайся, нібы таксама сабраўся пускаць карані і выкідваць з сябе галінкі». Фарбуючы крыж ужо ў тэракотавы колер, Петрык уяўляе, што як стары слой фарбы знікае пад новым, так дабро знішчае ліха. Андрэй Федарэнка гаворыць пра смерць, сцвярджаючы жыццё.

«… а раптам сапраўды чалавек створаны для волі? Тады што ж гэта атрымліваецца? Што зусім не абавязкова да пацямнення ў вачах рваць жылы, свету белага не бачыць за працай?» — непаваротлівыя думкі начальнікаў, як ні дзіўна, амаль цытата з Уладзіміра Караленкі: «Чалавек створаны для шчасця, як птушка для палёту». «Ціша» яшчэ і пра жыццё, пра тое, што з ім не варта ваяваць, яго трэба прымаць, любіць і напаўняць сэнсам. Чамусьці найлепш гэта адчуваюць дзеці і старыя: Петрык і Домна.

Зразумела, яшчэ многае засталося па-за ўвагай, што ж, няхай гэта будзе няпоўны і некатэгарычны досвед прачытання.



## Анатоль ЗЭКАЎ

***

*І ў радасці, і ў горы, і ў журбе*
*шляхамі знанымі й нязнанымі*
*за трыста кіламетраў ад цябе*
*звяртаюся штодня, каханая.*

*Не-не, я не нясу табе свой боль,*
*праблемамі сваімі не трывожу я,*
*а згадваю, калі былі з табой,*
*мая адзіная, мая харошая.*

*Згадаю — і становіцца лягчэй*
*на сэрцы, што дарэмна нудзіцца,*
*бо шмат у нас з табой яшчэ*
*надзей на тое ўсё, што збудзецца.*

***

*Няхай ніхто не судзіць строга.*
*Пакуль для гэтага — не час.*
*У нас з табой няма былога.*
*Ёсць толькі сённяшняе ў нас.*

*Каханне наша толькі-толькі*
*з іскрынкі ўспыхнула яшчэ,*
*і мы не ведаем, наколькі*
*сваім агнём нас апячэ.*

*І пачынаецца дарога,*
*дзе ўсё наперадзе якраз...*
*У нас з табой няма былога.*
*Ёсць толькі сённяшняе ў нас.*

***

*У акно мне свецяць зоркі,*
*пазіраюць думна.*
*На душы чамусьці ж горка*
*і даволі сумна.*

*Толькі скора сум той, скора*
*ад мяне адрыне.*
*А пакуль мне не да зорак*
*без цябе*
*пад імі.*

***

*Усё магчыма перайначыць —*
*патрэбна толькі захацець.*
*Як я хачу цябе пабачыць,*
*абняць — і на цябе глядзець.*

*Хачу ў вачах тваіх купацца,*
*лавіць іх кожны ўскалых*
*і аніколькі не баяцца,*
*што патану навечна ў іх.*

***

*А Гомель твой — і мой таксама.*
*Хто б ні казаў нам што на тое,*
*не сумняваюся ні грама,*
*што любім мы яго абое.*

*І парк цяністы па-над Сожам,*
*што крута ўніз з гары збягае,*
*і мост праз Сож, які прыгожых*
*дзяўчат*
*на пляжы выглядае...*

*А вуліцы й яго праспекты,*
*і нат завулкі-закуточкі!*
*Усё тут наша,*
*і пры гэтым*
*нам светла тут і ўдзень, і ўночы.*

*Ды, зрэшты, я ўсё ж не пра тое,*
*і прагну з Гомелем спаткання,*
*бо ён асвечаны табою*
*і да цябе маім каханнем.*

***

*Не ведаю таго, не знаю,*
*ды толькі думаю парой,*
*што я, магчыма, спакушаю*
*цябе увагаю сваёй.*

*І ты, абдзеленая ўвагай*
*і не сагрэтая цяплом,*
*мяне ўспрымаеш, нібы мага,*
*што да цябе прыйшоў у дом.*

*З мяне не зводзіш ты пагляду,*
*сваю развееўшы тугу,*
*і думаеш, што я напраўду*
*табе ўсё гэта даць магу.*

*Я ж позірку твайго баюся*
*і адчуваю ўсё мацней:*
*не я цябе, а ты спакусіш,*
*хутчэй за ўсё, відаць, мяне.*

***

*У век распусны,*
*не цнатлівы,*
*калі ўжо вернасць не ў цане,*
*я тым, каханая, шчаслівы,*
*што ты — адзіная ў мяне.*



## Галіна ЗАГУРСКАЯ

## На сцежкі той любові…

*Была любоў на ўсе вякі,*
*Туман гуляў на волі,*
*Страчаў нас жнівень трапяткі*
*На зжатым росным полі.*

*І зарапад наабяцаў*
*Нам шчасця гарнец поўны,*
*Ды ўзяў рассыпаў, разгубляў*
*Пад хітраватай поўняй.*

*Каханне хтосьці не ўбярог,*
*Ці суджана так доляй?*
*І зорны сыплецца пылок*
*На сцежкі той любові.*

## Плывем да лістападу

*Мы не пілі з табой віна*
*Ні за каханне, ні за здраду,*
*І не мая зусім віна,*
*Што мы плывем да лістападу.*

*І не твая зусім віна,*
*Што лістапад замружыў мрою,*
*Што ўзнікла чорная сцяна*
*З калючых думак і настрою.*

*А ёсць агульная віна,*
*Што цёмная вакол алея:*
*Любові выпілі віна,*
*А ап'янець… не ап'янелі.*

## Разумная душа

*Вось бы не думаць аб благім*
*І з ім у крузе не блукаць,*
*І мучыцца… А помніць-знаць,*
*Што ёсць і добрае за ім.*

*Але ж разумная душа*
*Імкнецца мукамі прайсці –*
*Сябе абноўленай знайсці,*
*Каб загучала ёй імша.*

*Калі ж такога з ёй няма:*
*Ані пакут, ані зрызот,*
*Аб дабрыні няма турбот,*
*То нішчыцца яна сама.*

***

*З тым, што адбалела,*
*Лепш не сустракацца,*
*Адышло нясмела –*
*Лепш і не вяртацца.*

*Будзе ўсё іначай*
*Пры другой сустрэчы –*
*І душа заплача*
*У самотны вечар.*

*Ўспомніць, як чароўна*
*Ападалі росы,*
*Як ляцела з чоўна*
*Песня на пракосы...*

*Хай душа сябрue*
*З той быллю казкай,*
*Дзе зара чаруе*
*Вечаровай ласкай.*

## Не супасці…

*Напэўна, нам ніколі не супасці:*
*Спазніўся ты, а можа, я сама.*
*І восень будзе павуцінкі прасці,*
*Пакуль не ляжа забыцця зіма.*

*Напэўна, адзінока праз завеі*
*Цяпер брысці над іх самотны спеў,*
*Сціраючы слязіначкі з-пад веек,*
*Каб іх ніхто пабачыць не паспеў.*



Фота Анеі Седро



## Мікола СТАРЧАНКА

## Наша мова

*Адны размаўляюць на шведскай,*
*Другія – на польскай сваёй,*
*А трэція – дык на нямецкай…*
*Ці мала тых моў за мяжой.*
*А я – на сваёй беларускай.*
*Хоць іншаму гэта няўцям,*
*Кажу «добры дзень» хлопцам глускім,*
*Кажу гэта шчыра гасцям.*
*Я змалку люблю сваю мову,*
*Размову палёў і гаёў,*
*Люблю я чароўнае слова*
*І слухаю спеў салаўёў.*
*Хто Мінск і Хатынь сёння чуюць,*
*Тады ім не трэба казаць,*
*Што мову лагодзяць такую,*
*Якой проста цяжка не знаць.*
*Я буду да самага скону*
*На мове сваёй размаўляць*
*І несці яе, як карону,*
*Якой у мяне не адняць.*

## Рускія паэты

*Мне рускія паэты па душы,*
*У вершах іх – туга, адчай і песні.*
*Чытаеш творы іхнія ў цішы*
*А ў памяці Расія ўваскрэсне.*
*Мне Пушкіна па сэрцы дабрата,*
*У Лермантава дальняя дарога,*
*Жукоўскага балады – любата,*
*А Цютчаў дык з'явіўся нам ад Бога.*
*А час і слава іх расла,*
*На змену новыя ішлі паэты,*
*Паэзія што лодка без вясла –*
*Не дасягнеш бліжэйшай нават мэты.*
*У новыя савецкія часы*
*Імёны Лугаскога і Святлова,*
*Твардоўскага ды іншых галасы*
*Сваім натхнялі добрым словам.*
*Я веру ў неўміручасць іх ідэй,*
*Бо геніяў зямля ўзгадавала,*
*Яны жылі, тварылі для людзей,*
*Другія зробяць лепшага нямала.*

## Хлеб-соль

*Гасцей страчаем – і падносім*
*На белым ручніку хлеб-соль,*
*За стол гасцінна іх запросім,*
*Хлеб-соль заўсёды, як пароль.*
*І знакамітым, і не надта*
*Не пашкадуем добрых слоў*
*І нават песень, калі варта,*
*І кветак з нашанскіх лугоў.*
*Дзе хлеб і соль, там будзе згода,*
*Там будзе мір і светлы час,*
*Хлеб-соль у нашага народа*
*Заўжды трымаюць на запас.*



## Валеры МАКСІМОВІЧ

## Роднае

*Па-над вышаю, па-над стромаю,*
*Дзе Сусвет грайна цішу гушкае,*
*Адгукаецца рэхам звонавым*
*Слова роднае, беларускае.*

*У вячыстых барах-сасонніках,*
*У гаях беластвола-зззяючых*
*Льецца песня, ў вяках сnative,*

*Падзіўлюся вачмі знадзеяна*
*І паслухаю спеў той з ласкаю…*
*Столькі ў сэрцы маім навеяна*
*Песняй роднаю, песняй наскаю!*

*Страпянецца душа збалелая,*
*Паімкнецца з выгнання-выраю*
*І з нязбытнай, з прачыстай вераю*
*Зноў прашэпча малітву шчырую*

*Там, над вышаю, там, над стромаю,*
*Дзе Сусвет грайна цішу гушкае…*
*……………………………………*
*Адгукнецца ёй рэхам звонавым*
*Слова роднае, беларускае.*

## Прадчуванне паэзіі

*За наўсцюжнымі волкімі днямі,*
*За шчымліва-нязбытнай тугой*
*Я і сэрцам сваім, і вачамі,*
*Меўшы тузін грахоў за плячамі,*
*Выглядаў яе з бухты сваёй.*

*Не хапала адвагі, адчаю*
*Увайсці ў яе дзіўны абсяг…*
*Віравалі пачуцці без краю,*
*А навокал зламысная зграя*
*Утрапёна мне крэсліла шлях.*

*Толькі думка крыляла, мацнела*
*І напружана біла ў вісок:*
*Руш наперад адважна і смела,*
*Не скарайся ні духам, ні целам,*
*Не наваж адступіць ні на крок.*

*Вырываліся словы на волю,*
*І, ўхапіўшы паветра глыток,*
*Павыпроствалі крылы паволі,*
*Каб, бы зернеткі ўвесну на полі,*
*Гожа скласціся ў спеўны радок.*



Ала САСКАВЕЦ

# Водар сноў

## *Апавяданне*

Алена ішла доўгім прыцемненым калідорам: дзверы, дзверы, дзверы. Недзе там, у канцы сіняй цемені, зззяла святлом вакно…

І на гэты раз сонца сляпіла так, што Алене, як і ў той – першы — раз, давялося прыкрыць вочы далонню. Як і тады, зрабіла некалькі няўпэўненых крокаў і адчула цудоўны незнаёмы водар. Толькі цяпер ёй захацелася надыхацца ім у запас: яна старанна ўдыхала яго, удыхала… аж но пакуль не прачнулася і зразумела, што гэта ўсяго толькі сон. Жанчыне не хацелася расплюшчваць вочы, каб як надаўжэй застацца ў гэтым дзіўным спалучэнні пахаў: мандарына, маладога бярозавага лісця, чорнага перцу, мускатнага арэха, смалы кедра і ладану.

Такой туалетнай вадой карыстаецца яе малады, прыгожы і добры шэф. І за гэта яна паважае яго, нават любіць! Бо калі ён праходзіць побач з яе сталом, то за ім цягнецца шлейф паху дагледжанага мужчыны, што нагадвае ёй яе каханага.

Калісьці, у далёкай маладосці, яна ўпівалася гэтым водарам. Больш за тое, напітвалася ім, бо нават дома, застаючыся адна, яшчэ доўгі час адчувала яго на сваіх руках, на сваёй вопратцы. І тады Алене здавалася, што ніколі-ніколі не забыць ёй гэты казачны водар, не пераб'е яго ніякі «шыпр», бо гэта быў водар першага кахання. Ён вярнуўся да яе ў сне, каб вярнуць Алену ў прыгожае мінулае, такое дзіўнае, як казка, толькі з неказачнай канцоўкай.

Заснуць Алене не ўдалося. Нахлынулі ўспаміны, нібы хтосьці спраектаваў іх на белы экран.

…Вось іх першая сустрэча: доўгі, вузкі пафарбаваны сінім колерам калідор інтэрната з адзіным акном у канцы. З яго б'е па вачах шырокі сонечны прамень. Даводзіцца прыкрываць вочы далонню і ісці ўсляпую. Таму і не дзіўна, што Алена не ўбачыла — адчула нечую прысутнасць на сваім шляху: незнаёмы і вельмі прыемны водар прымусіў яе спыніцца і ўглядзецца. Беласнежная майка акрэслівала загарэлыя плечы, а белазубая ўсмешка асвятляла такі ж загарэлы аскетычны твар. Алене не трэба было ісці далей, а значыцца, ні яму, ні ёй не трэба саступаць дарогу і прасіць прабачэння. Яна паспешліва пастукала ў дзверы, і, пачуўшы голас свайго земляка, зайшла ў пакой. Не першы раз заходзіла сюды, толькі ў той раз сэрца чамусьці білася больш гучна. Алене хацелася азірнуцца на зачыненыя дзверы, за якімі, яна была ўпэўнена, усё яшчэ стаяў незвычайна прыцягальны пах. Але во якое дзіва! Гэты пах ахутваў яе і тут, ішоў з-за спіны. Алена азірнулася. Ногі як не падкасіліся, калі яна ўбачыла, што чалавек з калідора чапляе на цвік ручнік, белазуба ўсміхаецца і прапануе ёй сесці. А калі ж мужчына назваўся Жан-Полем, у Алены мову адняло.

Надоўга яны затрымаліся ў тым пакойчыку: Жан-Поль прапанаваў адзначыць пачатак яго, славяніста славутай Сарбоны, стажыроўкі на кафедры беларускай мовы і першы дзень знаходжання на беларускай зямлі — радзіме яго маці

…Выпітае шампанскае, салодкія гукі і прыемныя рухі танга ўрэшце рэшт раскавалі мяне, — успомніла Алена. — Першы пацалунак маёй рукі, і ўсе наступныя, пасля кожнага танца, так растапілі маю ледзяную (паводле слоў прыхільнікаў) душу, што я гатова была стаць водарам, які гэты чалавек любіў, стаць сарочкай, якая аблягала яго натрэніраваныя загарэлыя плечы…

…Мой новы дзень пачаўся з беганіны па магазінах: я шукала тое, што магло зрабіць мяне падобнай да гераінь французскіх фільмаў. Сукенка з вялікім белым каўнярам у мяне была. І шырокі рэмень — піск тагачаснай моды — быў. А вось туфлі-лодачкі, у тон рыдыкюльчык і пальчаткі-сетачкі дасталіся з цяжкасцю: усе камісіёнкі аббегла. Толькі туды ў той час здаваліся такія рэчы пераважна жонкамі савецкіх маракоў.

Цэлы год збіралі бацькі грошы мне на зімовае паліто, а я засталася яшчэ на год у дэмісезонным, затое прыйшла на другую нашу сустрэчу ледзь не дзяўчынай з часопіса мод. Ведай, маўляў, нашых! І гэта мне вельмі дапамагло: я адчула сябе вартай свайго прыхільніка, калі ён з гонарам вёў мяне пад руку праз шэраг інтэрнацкіх аспірантак. Я адчувала сябе сапраўднай папялушкай на балі жыцця.

Кожны вечар — сустрэчы… Спектаклі, канцэрты, кінафільмы… А пасля — вячэра ў кафэ ці рэстаране. Мае рукі — у яго руках: мы ці танцуем, ці проста сядзім адзін насупраць другога, пакуль чакаем афіцыянта.

Якая гэта асалода! Я не таюся: я кахаю, кахаю так, як можна кахаць толькі адзін раз у жыцці. І якое шчасце, калі кахаеш чалавека, вартага такога кахання!

Да кожнай сустрэчы я рыхтавалася, як да адказнага экзамена. Начамі — з іголкай, ля машынкі, каб вечарам з'явіцца перад яго вачамі ў новай спадніцы, у моднай блузцы. Усё паперашывала, усё перарэзала, каб мець у тон шалік ці хустачку. Словам, любіла не толькі яго, а і сябе.

Утаіць гэтую закаханасць было нельга. Дый не хацелася! А галоўнае, не ведалі мы, што нам, савецкім дзяўчатам, нават і марыць пра нейкіх там Жакаў, Жанаў забаранялася.

Я, вядома, бачыла, што вакол мяне шмат зайздросніц, але каб з гэтага выйшаў палітычны кур'ёз, мне і ў галаву не прыходзіла. Таму і прызналася шчыра куратаршы, якую да таго часу вельмі паважала: «Я кахаю яго!» Тая аж завішчэла: «Савецкая студэнтка не мае права кахаць чалавека з варожай нам сістэмы. Наша дзяржава вучыць вас, плаціць вам стыпендыю… А вы ўжо гатовы здрадзіць ёй…» — «Чаму здрадзіць? — пачала я апраўдвацца. — Я не збіраюся… Ды і ён не просіць мяне… пакуль што стаць яму жонкай». — «А калі і папросіць, ведайце: за мяжу вас ніхто не выпусціць!» — сказала, як цвік забіла, куратарша.

Я ўжо не чула што мне будзе як будучаму журналісту, бо ўпершыню задумалася: а сапраўды, чаму ён мне нічога не гаворыць пра шлюб? Хутка ж яму ад'язджаць. Няўжо мы развітаемся навечна? Гэта ж нібы памром адно для аднаго. А я лятаю, як бяздумны матылёк, бо і думкі не дапускаю, што не стану яму жонкай. Аказваецца, не змагу, мне не дазволяць…

…Вось я прыйшла на апошняе наша спатканне (а што яно апошняе, ведала ўжо дакладна). Прыйшла чамусьці першая. Прысела за столік, зняла пальчаткі, паклала іх на сумачку і… закрыла твар рукамі, каб схаваць слёзы.

Праз некалькі хвілін прыйшоў і Жан-Поль. Ён узяў мае рукі ў свае і запытальна глянуў. Слёзы яшчэ каціліся па маіх шчоках, а вусны ўжо ўсміхаліся: мне не хацелася быць перад ім непрыгожай нават на хвілінку. І калі Жан-Поль дастаў пахучую насоўку і стаў асцярожна, каб не размазаць туш, выціраць мае слёзы, я пачала свой маналог. Пэўна, тэатральна, бо хвалявалася, а галоўнае, баялася, што не адважуся.

— Жан-Поль! Мілы мой Жан-Поль! Нам ніколі не быць разам…

— Я ведаю, — неяк вельмі ўжо спакойна адказаў ён.

— Ты ведаў з самага пачатку? — са страхам спытала я.

— Не. Мне сказалі пра гэта нядаўна.

— Значыцца, і вам не дазваляецца?

— Нам не забараняецца. Я магу выбраць жонку ў любым кутку свету, з любым колерам скуры.

— І нават з… варожай сістэмы? — наіўна спытала я.

Жан усміхнуўся і сказаў, што ў іх так пытанне не ставіцца. Яны вольныя людзі.

— Тады вазьмі мяне замуж, — нясмела прапанавала я, бо забылася на папярэджанне куратаршы.

— Я гэтага вельмі хацеў бы, мілая! Вельмі хацеў бы! — тут ён развёў рукамі і зноў выняў насоўку.

— Я разумею! — сказала я ўжо без слёз, бо ўбачыла іх у яго вачах. Гэта і надало мне смеласці, каб запытацца: — А ты мог бы… застацца ў нас?

— Не, — не дужа ўпэўнена сказаў ён. — Бо дзеля гэтага мне давялося б адрачыся ад бацькоў, ад радні… Больш за тое: узвесці паклёп на нашу дэмакратычную сістэму, ахаяць наш лад жыцця… Я павінен быў бы стаць здраднікам. Ды што я тлумачу табе! — перапыніў сам сябе Жан-Поль і расказаў, куды яго выклікалі і пра што гаворку з ім вялі. Расказваў пра тое вельмі жыва, без злосці, нават з нейкім спачуваннем людзям, якія па службовым абавязку вымушаны былі весці з ім такія размовы: «Навошта вы ўскружылі галаву беднай савецкай студэнтцы?» — гледзячы некуды за вакно, спытаў чалавек у пагонах.

— Я француз! І маё прызначэнне, амплуа, можна сказаць, дарыць жанчынам шчаслівыя хвіліны, рабіць іх прыгожымі маёй закаханасцю. Ну, а што іншае я мог сказаць гэтаму няшчаснаму функцыянеру? Ён жа чалавек паднявольны. Яму загадана — не пушчаць, ён і будзе на тым стаяць, — з лёгкім раздражненнем закончыў Жан-Поль, зноў узяў мае рукі ў свае і пачаў цалаваць кожны мой пальчык. Было зразумела: ён развітваецца. Нейкі час я яшчэ сядзела, бо асалода ад дотыку яго вуснаў была такой шчымліва-млявай, што не хацелася ні гаварыць, ні думаць. І ўсё ж нешта падказвала мне: першай павінна выйсці я.

Жан-Поль прапанаваў мне павячэраць на развітанне. Але гэтае слова так паласнула па сэрцы, што я толькі і здолела пакруціць адмоўна галавой, падняцца, адняўшы ў яго свае рукі, узяць рыдыкюльчык з пальчаткамі і ціха пайсці. Доўгае развітанне — лішнія слёзы, падбадзёрвала я сябе, пакуль ішла да выхаду з кафэ. І ўсё ж не вытрымала, азірнулася: Жан-Поль глядзеў мне ўслед…

Апошні раз я бачыла Жан-Поля праз акно ўжо, за тым жа сталом і з апушчанай на рукі галавой. Вось чаму мяне тыя словы пра амплуа не абразілі. Я ўпэўнілася: ты кахаў мяне! Можа, крыху менш, чым я цябе, але дастаткова, каб мне праз усё жыццё можна было ганарыцца гэтым каханнем. Пра адно шкадую, любы, усё жыццё: чаму не стала тваёй? Чаму не адважылася стаць мацеркай твайму сыну? І па маёй зямлі хадзіў бы цяпер мужчына высакародны, выхаваны ў павазе да жанчыны, да кахання. Шкада! Вядома, шкада! І ўсё ж я ўдзячная лёсу за гэтае каханне. Яно не дало мне шансу змірыцца з шэрасцю жыцця, навучыла аддзяляць асцё ад зерняў і жыць у ладзе з асяроддзем і абставінамі.

Праз усе пражытыя без Жан-Поля гады, калі нешта нагадвала ёй пра яго: гэта магла быць мелодыя іх танга, лавачка ў парку ці крэслы ў глядзельнай зале, дзе, бывала, яны сядзелі так блізка, як толькі дазвалялі абставіны, ці нават сон, у які ў маладыя гады часта прыходзіў ён са сваім пахам, — усё абуджала ўспаміны…

І гэта дапамагала, а хутчэй нават патрабавала ад Алены нейкага адпаведнага статусу, для якога яна трымала сябе ў форме, сачыла за моднымі кірункамі. Алена часцяком наведвалася ў глядзельную залу, сядзела за столікам у рэстаране і цешыла сябе тымі ж прысмакамі грамадскага харчавання вышэйшага гатунку…

Ужо засынаючы, Алена паабяцала нябачнаму, а мо цяпер і неіснуючаму, Жан-Полю наведаць заўтра ж мясціны якія прыходзяць у сны гэтым незабыўным казачным водарам першага кахання.



# Насуперак глабалізацыі

Заканчэнне. Пачатак на стар. 2





У з'ездах славістаў традыцыйна бярэ ўдзел дастаткова вялікая колькасць навукоўцаў з розных краін свету. Гэта сведчыць пра шырокі дыяпазон развіцця славістыкі ў свеце, пра ролю славянскіх моў і культур у сусветным цывілізацыйным працэсе і пра цікавасць, што выклікаюць славянскія мовы, літаратуры і культуры ў неславянскіх краінах. Шырокі ўдзел прадстаўнікоў гуманітарнай навукі з неславянскіх краін садзейнічае пашырэнню звестак пра нас, славян, у свеце. Гэта важна, бо наша спадчына — частка сусветнай культуры. Сёння, калі інтэнсіўна ідуць працэсы інтэграцыі і глабалізацыі, калі фактычна сціраюцца межы паміж народамі і краінамі, вельмі важна захаваць сваю нацыянальную адметнасць, ідэнтычнасць. Форумы такога тыпу дазваляюць не толькі глыбей спазнаць сваё ўласнае і параўнаць яго з суседнім, але і ацаніць дасягненні і набыткі кожнай славянскай культуры.

**— Якое кола тэм, праблем ахоплівае тэматыка дакладаў, што прадстаўляюцца ў межах навуковага форуму? Якія пытанні сёння хвалююць вучоных-славістаў?**

— Тэматыка з'езда ахоплівае шырокае кола славістычных праблем. Гэта і такія традыцыйныя пытанні, як паходжанне і гісторыя славянскіх моў і літаратур, узнікненне і развіццё славянскага пісьменства і многія іншыя. Адначасова ў праблематыцы з'езда з'яўляюцца тэмы, актуальныя для сённяшнага дня. Калі казаць пра лінгвістычны блок, то гэта праблема ўзаемадзеяння славянскіх моў, адметнасці сучаснага развіцця сістэм славянскіх моў, асаблівасці неславянскага ўплыву на славянскія мовы, характэрныя рысы сучасных моўных сітуацый і многія іншыя. Мне хацелася б адзначыць, што ў тэматыцы сёлетняга з'езда адлюстравана і праблематыка, актуальная менавіта для Беларусі. Цэлы блок пытанняў звязаны з моўнай сітуацыяй у Вялікім Княстве Літоўскім. Актуальная тэматыка звязана з сучаснымі тэндэнцыямі развіцця літаратур, і беларуская літаратура як адна з маладых славянскіх літаратур у гэтым сэнсе таксама дэманструе пэўныя заканамернасці агульнага літаратурнага працэсу і адначасова паказвае спецыфіку маладых славянскіх літаратур, якія на працягу стагоддзя праходзяць паскораны шлях развіцця. Многія даследчыкі, не толькі беларускія і славянскія, але і прадстаўнікі неславянскіх краін адзначаюць, што ў прынцыпе сённяшняй беларускай літаратуры ўласцівы ўсе тыя напрамкі і тэндэнцыі, якія характарызуюць сучаснае развіццё гэтага віду мастацкай творчасці.

**— Ці прадугледжана для удзельнікаў XV Міжнароднага з'езда славістаў нейкая адметная культурная праграма, што дазволіць бліжэй пазнаёміцца з культурай Беларусі як краіны-арганізатара?**

—Па традыцыі ў праграме з'езда запланаваны адзін экскурсійны дзень, калі ўсе госці і ўдзельнікі форуму маюць магчымасць выехаць за межы горада, дзе праходзяць асноўныя пасяджэнні, і пазнаёміцца з гістарычнымі і культурнымі мясцінамі краіны. Ёсць такі і ў нашай праграме. Замежным удзельнікам прапанаваны шэраг турыстычных маршрутаў. Гэта Полацк, Нясвіж — Мір, Навагрудак — Завоссе, Заслаўе, Слонім — Жыровічы. За тыя ж дні, калі праходзіць з'езд, нашы госці могуць пазнаёміцца перш за ўсё са сталіцай Беларусі. Дарэчы, Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь прымала актыўны ўдзел у падрыхтоўцы з'езда, і ёсць дамоўленасць пра бясплатнае наведванне сталічных музеяў для ўдзельнікаў форуму.





Праграма з'езда дастакова насычаная, але я думаю, што госці і ўдзельнікі знойдуць час, каб пазнаёміцца з нашай краінай.

**— Некалькі соцень навукоўцаў з 35 краін свету завіталі ў Мінск. Якія мовы абраны ў якасці рабочых падчас навуковага форуму?**

— Гэта яшчэ адзін цікавы і адметны момант міжнародных з'ездаў славістаў. Рабочымі мовамі на з'ездзе з'яўляюцца ўсе славянскія мовы. Акрамя гэтага, выкарыстоўваюцца англійская, нямецкая і французская мовы. Сінхронны пераклад не робіцца. Кожны навуковец мае права гаварыць на сваёй славянскай мове, а тыя, хто слухаюць, абавязаныя яго разумець. Гэта таксама цікава, бо прадугледжвае шырокі дыяпазон моўнай кампетэнцыі ўдзельнікаў з'езда, а з іншага боку, дае магчымасць у адным месцы адначасова паслухаць фактычна ўсе славянскія мовы, адчуць адметнасць і характво кожнай з іх.

**— Вялікі навуковы форум з багатай гісторыяй, напэўна, ужо мае свае традыцыі…**

— Так, і адной з іх з'яўляецца наладжванне падчас работы з'езда кніжных выставак. Тут прадстаўляецца навуковая літаратура па славістычнай праблематыцы, выдадзеная ў розных краінах за апошнія пяць гадоў, па сутнасці, у прамежку паміж з'ездамі. Такая ж выстаўка арганізавана і ў нас. Па традыцыі ўсе кнігі, прадстаўленыя ў экспазіцыі, застаюцца ў падарунак краіне-арганізатару з'езда.

**— Сёлета беларусы выступаюць у якасці гаспадароў Міжнароднага з'езда славістаў. Наколькі працяглая гісторыя ўдзелу нашых навукоўцаў у славістычных форумах? Ці шырока прадстаўлена беларуская славістыка на сёлетнім з'ездзе?**

— Беларусы ўдзельнічаюць у міжнародных з'ездах славістаў аж з 1929 года. У Празе на І з'ездзе выступіў вядомы беларускі лінгвіст Пётр Бузук. Ён прачытаў наватарскі даклад, прысвечаны лінгвагеаграфіі, які быў успрыняты навуковай грамадскасцю з вялікай цікавасцю і фактычна разам з іншымі працамі вучонага даў пачатак цэламу навуковаму напрамку. У такім кірунку сёння развіваюцца многія даследаванні ў галіне беларускай дыялекталогіі, а таксама іншых славянскіх краін. Больш за тое, у гэтым жа рэчышчы распрацоўваецца, напэўна, самы буйны міжнародны славістычны праект — Агульнаславянскі лінгвістычны атлас. У яго рэалізацыі таксама актыўна ўдзельнічаюць нашы дыялектолагі. А пачынаючы з IV Міжнароднага з'езда славістаў, што прайшоў у 1958 годзе ў Маскве, беларускія вучоныя рэгулярна прымаюць удзел у гэтых навуковых форумах. Хачу адзначыць, што з канца мінулага стагоддзя, з Кракаўскага з'езда 1998 года ўдзел беларусаў становіцца асабліва значным. Наша дэлегацыя на з'ездах складае ад 20 да 30 чалавек. Гэта дастаткова вялікая колькасць, бо для кожнай краіны звычайна ўстанаўліваецца квота ўдзелу, і ў праграму ўключаюцца толькі тыя даклады, што рэкамендуюцца Нацыянальнымі камітэтамі славістаў. А паколькі сёлета мы з'яўляемся гаспадарамі з'езда, то наш удзел у ім нават крыху большы, чым звычайна: будзе прачытана каля 50 беларускіх дакладаў. Яны ахопліваюць фактычна ўсе напрамкі славістыкі. Унутры краіны дыяпазон вельмі шырокі, удзельнікамі форуму з'яўляюцца не толькі прадстаўнікі сталічнай навукі, але і вучоныя з абласных універсітэтаў, што таксама сведчыць пра ўзровень і шырыню развіцця гуманітарнай і славістычнай навукі ў нашай краіне.

XV Міжнародны з'езд славістаў — гэта вялікая навуковая і культурная падзея ў жыцці нашай краіны, і я ўпэўнены, яна будзе садзейнічаць павышэнню прэстыжу і прыцягненню ўвагі да неабходнасці развіцця гуманітарных навук у цэлым, а таксама павышэнню цікавасці да нацыянальнай мовы, літаратуры, культуры. А яшчэ — дасць магчымасць прадэманстраваць дасягненні нашай славістычнай навукі міжнароднай навуковай супольнасці і пазнаёміць замежных навукоўцаў з Беларуссю.

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**фота Кастуся Дробава**

# Па слядах Яўхіма Карскага

Госцем XV Міжнароднага з'езда славістаў у Мінску стаў супрацоўнік Інстытута славістыкі Польскай акадэміі навук, кандыдат філалагічных навук, выпускнік кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта Міраслаў Янковяк. Але госцем нашай краіны спадара Міраслава можна назваць вельмі ўмоўна. Справа ў тым, што польскі навуковец ужо шмат год прысвяціў вывучэнню беларускіх дыялектаў на памежжы краіны. А не так даўно ў суаўтарстве з прафесарам Нінай Баршчэўскай Міраслаў Янковяк выдаў грунтоўную навуковую працу «Беларуская дыялекталогія».




Менавіта за гэтае выданне, а таксама за папулярызацыю беларускай мовы сярод навучэнцаў гуманітарных факультэтаў польскіх універсітэтаў спадар Міраслаў быў узнагароджаны Нагрудным знакам «Юбілейны медаль у гонар 80-годдзя Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі». Польскі даследчык прызнаўся: "Гэта першы медаль у маім жыцці, і асабліва прыемна, што я атрымаў яго ў Беларусі. Думаецца, узнагарода паспрыяе і далейшаму больш актыўнаму вывучэнню беларускай мовы». Пасля ўрачыстай цырымоніі ўзнагароджання, што прайшла ў галоўным корпусе Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, Міраслаў Янковяк адказаў і на пытанні нашага карэспандэнта.

**— Спадар Міраслаў, як так атрымалася, што вы зацікавіліся беларускай мовай і Беларуссю?**

— Усё пачалося не з беларускай мовы, а ўвогуле з земляў, якія раней уваходзілі ў склад Рэчы Паспалітай і маюць выдатную гісторыю. Мы з братам заўсёды любілі падарожнічаць па гэтых мясцінах: ад Таліна, праз Мінск, Кіеў і да Чорнага мора. Гэта было вельмі цікава. Зацікаўленасць — адзін чыннік. Другі ж чыннік такі: сям'я майго дзядулі з боку маці вырашыла пераехаць на Палессе ў 1925 годзе, яны жылі ў Тартаку, а ў 1939 годзе дзядуля служыў у Польскай арміі. Ён заўсёды цёпла ўспамінаў беларусаў, як дапамагалі ў час вайны, кармілі... Гэтыя расповеды сталі яшчэ адной прычынай, па якой я пасля заканчэння школы падаў дакументы менавіта на кафедру беларусістыкі і абраў яе ў якасці аднаго з кірункаў сваёй працы.

**— Што цяпер з'яўляецца прадметам вашага даследавання?**

— Перадусім гэта беларуская мова ў шырокім значэнні. Усё пачалося некалькі год таму, калі я ўзяў першыя тэксты Яўхіма Карскага і пабачыў, што навуковец на мяжы XIX і XX стст. пачаў даследаваць беларускія гаворкі, казаць, што гэта не дыялект рускай ці польскай мовы, а самастойная мова, бо мае ўсе элементы, каб называцца мовай. Ён таксама пачаў даследаваць памежжа Беларусі, хацеў пабачыць, як далёка жывуць беларусы, якія землі ахоплівае беларуская мова. Самы галоўны даследчык-беларусіст у Польшчы прафесар Альжбета Смулкова некалькі год таму арганізавала велізарны праект «Беларусь і памежжа Беларусі: мова, культура, гісторыя», у якім удзельнічалі філолагі, гісторыкі, этнолагі. Усе разам зладзілі вялікую экспедыцыю на памежжа Беларусі. Мае даследаванні беларускай мовы ў Латвіі — працяг гэтай працы. Мару таксама аб'ехаць усе памежныя рэгіёны Беларусі, як гэта зрабіў 100 год таму Я. Карскі. Ці хопіць жыцця, не ведаю, але такая мара ў мяне ёсць.

**— Чым вас захапляе менавіта памежжа?**

— Напэўна, тым, што яно вельмі складанае. Яго не так лёгка апісаць, бо ў гэтых рэгіёнах заўсёды адбываецца сутыкненне моў, культур, ментальнасці, архітэктуры, гэта цудоўнае месца для даследавання, а мова вельмі добра адлюстроўвае ўсе ўзроўні жыцця чалавека.

**— Часам можна пачуць меркаванне, што разам з носьбітамі мясцовых дыялектаў знікаюць і самі гаворкі, а з цягам часу яны і ўвогуле гінуць. Ці шмат яшчэ захавалася таго каларытнага, што можа складаць скарбонку нашай мовы?**

— Калісьці я прачытаў адзін тэкст Яўхіма Карскага, дзе шаноўны даследчык сцвярджае, што праз сто гадоў беларускіх гаворак не будзе. Прайшло сто гадоў, а дыялектолагі ўсё яшчэ ладзяць экспедыцыі і даказваюць, што гаворкі ёсць. Безумоўна, шмат даследчыкаў лічаць, што працэс глабалізацыі, масмедыя ўплываюць на мову і гаворкі, а пасля смерці старэйшых людзей дыялекты знікнуць. Але вынікі маіх даследаванняў у розных рэгіёнах: у цэнтры Палесся, на Магілёўшчыне, Гродзеншчыне, у Латгаліі, на Віленшчыне, на Падляшшы — даказваюць іншае. Я сам быў вельмі здзіўлены тым, што прадстаўнікі не толькі старэйшага, але і сярэдняга пакалення мясцовых жыхароў паміж сабой на вуліцы размаўляюць на мясцовай гаворцы. Нам жа, навукоўцам, трэба праводзіць даследаванні там, дзе гаворкі яшчэ не вывучаныя. І ў цэлым, кожны народ павінен збіраць матэрыял для нашчадкаў, каб паказаць, якая раней была культура, традыцыя, мова.

Але я лічу, што беларускія гаворкі будуць існаваць заўсёды. Ідзе працэс русіфікацыі, уплывы польскай, літоўскай моў, але мясцовыя дыялекты не знікнуць зусім, у нейкай форме яны будуць існаваць далей праз шмат год. Я доўга думаў над пытаннем: у чым жа заключаецца феномен беларускіх гаворак? Дзясяткі гадоў тут праходзіла паланізацыя, дзясяткі — русіфікацыя, а гаворкі як былі, так і застаюцца. Чаму? Мне здаецца, што сакрэт хаваецца ў самой мове. Яна падобная да іншых славянскіх моў, і чалавек можа, захоўваючы беларускую фанетыку, марфалогію і сінтаксіс, у працэсе маўлення толькі крыху змяняць форму слоў і саму лексіку. Размаўляю з палякам — буду ўжываць трошкі больш польскіх слоў, з рускім — трохі больш рускіх… Але рысы, на аснове якіх мы вызначаем прыналежнасць да мовы і дыялекту, — фанетыка і марфалогія, — застаюцца беларускімі.

**— Падзяліцеся, калі ласка, планамі на будучыню. Ці ёсць перспектывы ў даследаванні беларускіх гаворак?**

— Хацелася б адзначыць, што даследаванні былі б немагчымыя, калі б не нашы сябры. У нас ёсць дамовы з акадэміямі навук Літвы, Латвіі, Беларусі. І кніга «Беларуская дыялекталогія» таксама з'яўляецца вынікам супольнай працы. Калі б не наш сумесны праект, які з беларускага боку каардынуе кандыдат філалагічных навук загадчыца аддзела дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі Цэнтра даследаванняў беларускай мовы, культуры і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Вераніка Курцова, было б нашмат цяжэй арганізаваць працу. Што да планаў, то мы будзем далей працягваць нашы супольныя даследаванні ў гэтым кірунку. Я шмат часу даследаваў беларускую мову ў Латгаліі, цяпер вывучаю беларускія гаворкі на Віленшчыне і ў Польшчы, на Падляшшы. Мая самая вялікая мара — разам з беларускімі дыялектолагамі паехаць на Чарнігаўшчыну і Смаленшчыну. Менавіта гаворкі на гэтых тэрыторыях найменш даследаваны з беларускага боку.

**— Але вернемся да кнігі «Беларуская дыялекталогія». Як узнікла ідэя напісаць такую працу?**

— Усё пачалося некалькі гадоў таму. Я даўно хацеў напісаць працу, нібыта ідучы следам Яўхіма Карскага, і доўга думаў, хто б з навукоўцаў мог мне ў гэтым дапамагчы. Для аднаго чалавека здзейсніць такое даследаванне, якое ахоплівае велізарны матэрыял, проста немагчыма. Маю задумку падтрымала прафесар Ніна Баршчэўская, загадчык кафедры беларусістыкі Варшаўскага ўніверсітэта. Апроч прафесара Альжбеты Смулковай, яна — найлепшы дыялектолаг у Польшчы, мае вялікія веды па тэме. Тры гады мы актыўна супрацоўнічалі, спадарыня Ніна добра ўмее працаваць з маладымі навукоўцамі. Гэта чалавек, адкрыты для новых ідэй, праектаў, таму наша праца склалася досыць гарманічна. Прафесар Баршчэўская пісала раздзелы пра гісторыю, тэндэнцыі развіцця беларускіх дыялектаў, таму што яна мае вялікі вопыт аналізу, а палявыя даследаванні праводзіў я — адзін або з калегамі з Беларусі, якія актыўна дапамагалі.

**— Каму адрасавана выданне? Ці была ўжо нейкая зваротная рэакцыя з боку чытачоў?**

— Калі праект знаходзіўся на стадыі абмеркавання, мы са спадарыняй Нінай Баршчэўскай вырашылі, што кніжка павінна быць карыснай польскім даследчыкам, мовазнаўцам, славістам, студэнтам, усім, хто ў навуковай дзейнасці карыстаецца польскай мовай. Пабеларуску падобныя даследаванні ўжо выходзілі. У выніку атрымалася, што мы спалучылі некалькі рэчаў. Перадусім гэта была кніга для польскага чытача, але мы пабачылі, чаго не хапае ў кнігах, выдадзеных у Беларусі, зрабілі пэўнага кшталту дапаўненне і тым самым унеслі новае ў беларусістыку і дыялекталогію. Тут ёсць невядомыя факты пра беларускія гаворкі па-за межамі краіны.

Зваротная рэакцыя была. Многія даследчыкі адзначалі, што задаволеныя выхадам кнігі. Па-першае, большасць навукоўцаў складана чытаць па-беларуску, на рускай мове працей, цяпер жа яны маюць, па сутнасці, польскамоўны падручнік па беларускай дыялекталогіі, які комплексна апісвае ўсе неабходныя тэмы. Былі і закіды негатыўнага кшталту, маўляў, мы не ўсё апісалі, не ўсе крыніцы выкарысталі. Але ж спіс літаратуры ў выданні займае амаль 40 старонак, па сутнасці, мы апрацавалі ў 4 ці 5 разоў больш інфармацыі, аднак выкарыстаць усё ў выданні абмежаванага аб'ёму было немагчыма.

**— Ці мяркуецца пераклад на іншыя мовы?**

— Так. Ужо абмяркоўваецца пытанне перакладу на англійскую мову, ёсць зацікаўленасць у Нямеччыне, Вялікабрытаніі і ЗША. Трэба, з аднаго боку, знайсці фінансаванне, з іншага — пачакаць паўгода, калі будуць першыя рэцэнзіі, каб выправіць патэнцыйныя памылкі, нешта дадаць і ўжо потым зрабіць пераклад. А ён, безумоўна, будзе карысны. Справа ў тым, што кніг пра беларускую мову на англійскай няма. І было б выдатна, каб усе зацікаўленыя мелі доступ да матэрыялаў, якія паказваюць з'явы менавіта з беларускага пункту гледжання. Думаю, што пераклад на англійскую пакажа замежным даследчыкам сапраўдныя веды пра беларускую мову. Каб яны, як і многія ў Польшчы, не кіраваліся стэрэатыпамі.

**Чэслава ПАЛУЯН,**
**фота аўтара**

## Нататкі рамантычнага маркетолага



Кацярына СІМАН

# Джо, не чапай Карэніну!

У свеце існуюць тысячы філасофскіх і не надта спрэчак: пра вытокі маральнасці, пра прыроду спазнання, пра першаснасць яйка і курыцы. Гэты спіс заўжды можна дапоўніць яшчэ адным пунктам, які тычыцца дакладнасці экраннага ўвасаблення літаратурных твораў. А таксама пытаннем, ці варта глядзець экранізацыю, не чытаўшы папярэдне раман ці аповесць.

Па магчымасці я стараюся пазбягаць аднаначных ацэначных меркаванняў, бо абсалютнай ісціны, як на мяне, не існуе. Існуюць толькі два бакі аднаго медаля. Аднак у пытанні экранізацый мяне не пераўпэўніць. Савецкія — лепшыя! І што самае цікавае, айчынным кінематаграфістам былі падуладныя і творы замежных аўтараў. А вось у зваротны бок правіла не працуе. У французаў ёсць бліскучае экраннае ўвасабленне «Адрынутых» з Жанам Габенам у галоўнай ролі, а найвядомейшы «Шлюб па-італьянску» — экранізацыя п'есы «Філумена Мартурана» — менавіта італьянскага камедыёграфа Эдуарда дэ Філіпа. Няма роўных заходнім сцэнарыстам і рэжысёрам у мастацтве перанясення на кінаплёнку «родных» твораў. Але так і хочацца сказаць: «Джо, не чапай Карэніну!» Не магу не пагадзіцца з расійскім аналітычным штотыднёвым часопісам «Профиль», на старонках якога была наступная рэцэнзія: «прыгожая, дынамічная замалёўка паводле рамана Льва Талстога» і «не экранізацыя вялікага рамана, а блытаны і недакладны, «на троечку», пераказ выбраных сцэн».

Чым патлумачыць гэткі феномен — пакуль не ідзе на розум. Але факт застаецца фактам: у 2006 годзе акцёру ВасілюЛіванаву быў уручаны ордэн Брытанскай імперыі за лепшы класічны экранны вобраз Шэрлака Холмса. Як вам? Ці чулі вы, каб за лепшы экранны вобраз Яўгена Анегіна ці князя Мышкіна ўзнагароджвалі брытанскага акцёра? Не, я не кажу пра тое, што брытанская акцёрская школа благая. Ані, яна геніяльная! Яна класічная і выверaная, як усё англійскае. Выбітны Рэйф Файнс ідэальна ўпісаўся ў вобраз Хіткліфа з «Навальнічнага перавала», але пры гэтым не кранае маё сэрца да самых запаветных глыбіняў, калі бачу яго ў ролі Анегіна. Блізка? Магчыма. Але не абсалютна.

Калі ж звярнуцца да пытання карысці экранізацый, то тут можна зрабіць адсылку да адной з нашых мінулых размоў пра адаптацыі. Экранізацыя — пытанне адданасці рэжысёра літаратуры, пытанне глыбіні яго светаўспрымання. А яно ў кожнага сваё. Кожны, на жаль, прэтэндуе на права быць ісцінай у апошняй інстанцыі. І рэжысёры не выключэнне. Яны такія ж людзі, як мы з вамі. Найлепшым выйсцем мне падаецца такое: кожны «сам сабе рэжысёр». Ніводны майстар, нават узроўня Стэнлі Уінстана, не ў стане ўвасобіць на экране тое, што будзе кіпець у свядомасці падлетка пры чытанні раманаў Роберта Стывенсана ці Жуля Верна. Ды і мараль з усякай гісторыі лепей выводзіць сваю. Таму экранізацыя мусіць служыць, як цяпер прынята казаць, прыемным бонусам да твора, але не яго заменай. Пры гэтым карысці будзе ўсяк болей, чым ад адаптацыі. Экранізацыя — для ўжо чытанага — пашырае палатно рамана, дазваляючы ўбачыць яго вачыма іншага чалавека. Значыць, нараджаецца пэўнае пярэчанне, унутраны дыспут у чытача-гледача. Адпаведна, літаратурны твор двойчы пабуджае чалавека да працы думкі і душы.

Тых жа, хто выкарыстоўвае кіно для «кароткага азнаямлення» з сюжэтамі сусветнай класікі, застаецца адно пашкадаваць. Яны пазбаўляюць сябе самага прыўкраснага — водару таямнічага свету іншай рэальнасці.



Фота Аксаны Манчук

# Януш Леон Вішнеўскі: «Я проста хімік»

На мінулым тыдні ў аматараў творчасці Януша Леона Вішнеўскага было свята: папулярны польскі пісьменнік прыехаў у Мінск. Дзякаваць чытачы мусілі кампаніі OZ.by, якая арганізавала вячэру з літаратарам для перамоўцы аўкцыёна, аўтограф-сесію, прэзентацыю кнігі «На фэйсбуку з сынам» і прэс-канферэнцыю. На апошняй пан Вішнеўскі распавёў пра новае выданне, адкрыў невялічкую кінатайну і нават дзяліў з беларусамі «вялікага польскага паэта» Адама Міцкевіча. Зрэшты, дамо слова самому герою дня.

### «НЕ БУДЗЕШ ВУЧЫЦЦА — СТАНЕШ ПАЛІТЫКАМ»

Калі ў мяне запытаць, хто я, адкажу так: я вучоны, які па вечарах піша кнігі. І ў кнігах маіх няма палітыкі, бо я яе не люблю. У маленстве бацька сказаў мне: «Януш, калі ты не будзеш вучыцца, то станеш палітыкам». Я ніколі не забываў гэтыя словы.

Я вельмі заняты чалавек, працую ў вялікай карпарацыі ў Франкфурцена-Майне, дзе пішу камп'ютарныя праграмы. Быццам бы жыву двума жыццямі — і ні на што не хапае часу. Усе мае выходныя распланаваныя да канца года і паловы наступнага. Але цяпер я вырашыў змяніць сваё жыццё, бо самае горшае для чалавека — рабіць дрэнна адначасова дзве рэчы. Адмовіцца ад навукі дзеля літаратуры не магу, бо навука — мая жонка, а літаратура — каханка. Таму я планую вярнуцца ў Польшчу і працаваць ва ўніверсітэце. Тады будзе болей часу на напісанне кніг.

Хоць і жыву ў Германіі 27 гадоў, я — паляк і заўжды буду палякам. Навуковыя працы і артыкулы пішу на нямецкай і англійскай мовах, але пра самае галоўнае, інтымнае — толькі на мове бацькоў.

Я ведаю, што пра мяне шмат гавораць, але разумею, што мае кнігі — папулярная літаратура. Я не цэлю ў каноны.

### «МЯНЕ ЗАПРАШАЛІ НА ТРЫЦЦАЦЬ ВЯСЕЛЛЯЎ»

Маю першую кнігу «Адзінота ў сеціве» выдалі ў Польшчы ў верасні 2001 года. І я стаў першым польскім пісьменнікам, які вырашыў апублікаваць у кнізе адрас сваёй электроннай пошты. Але ж і падумаць не мог, што столькі людзей прачытаюць кнігу! За першыя тры гады мне даслалі 25 000 лістоў! І тады я даведаўся, што гісторыя, якую апісаў, адбываецца ў жыцці многіх людзей. Але не ўсе гісторыі заканчваліся сумна. Мяне разоў трыццаць запрашалі на вяселле пары, якія пазнаёміліся ў інтэрнэце! Але я не быў ні на адным, бо часу нестае. Кожны такі ліст — маленькая рэцэнзія. І некаторыя лісты былі лепшыя за саму кнігу.

Я не крыўдую, што мяне асацыююць выключна з аўтарам «Адзіноты ў сеціве». Я ўдзячны гэтай кнізе. Прызвычаіўся і да таго, што большасць пытанняў мне задаюць менавіта па ёй. Калі ў Польшчы выходзіла кніга «Бікіні» — пра падзеі Другой сусветнай вайны — яна прэзентавалася як «новая кніга аўтара "Адзіноты ў сеціве"». І нават калі не ведаюць імені аўтара, гэта няважна, галоўнае, што ёсць сама назва. Выраз «Адзінота ў сеціве» стаў у Польшчы сімвалам нешчаслівага, вельмі сумнага кахання.

### «У ПЕКЛЕ ВЕСЕЛА»

Усе мае кнігі — пра любоў. А новая кніга «На фэйсбуку з сынам» — гэта гісторыя любові мамы і сына.

Уся яна — адно вялікае паведамленне, агромністы маналог. У кнізе мама патрапіла ў пекла. Яна сама пры жыцці казала, што туды патрапіць: была надта грэшнай жанчынай, мела трох мужоў. Але там весела. Вельмі цікава.

У кнізе шмат любові, тэалогіі і генетыкі. І разам з тым, яна крайне антыклерыкальная. Перад выданнем кнігі ў Польшчы выдавец напісаў ліст адвакату: ці ёсць рызыка, што мяне абвінавацяць у абразе пачуццяў вернікаў? Але пакуль ніякіх працэсаў не было. А шкада.

Для некаторых гэтая кніга — навукова-папулярная літаратура. Для іншых — белетрыстыка. У самай галоўнай польскай газеце «Gazeta Wyborcza» яна была на чацвёртым месцы ў спісе «Літаратуры факта». Для мяне ж яна — вельмі значная, вельмі асабістая. Аднак вокладка кнігі мне не падабаецца. Сама па сабе яна цудоўная, але ніяк не стасуецца са зместам. Спачатку быў іншы варыянт — прыўкрасная карціна Густава Клімта, якую ў маркетынгавым аддзеле выдавецтва АСТ палічылі занадта інтэлектуальнай. «Не, з такой вокладкай не будзе прадавацца… А давай жанчыну? А давай!»

### «Я ІГРАЎ БАМЖА»

У Пецярбурзе, у тэатры «Балтыйскі дом», у 2009 годзе паставілі п'есу «Адзінота ў сеціве». Калі я толькі даведаўся пра намер адаптаваць кнігу для сцэны, сказаў, што рускія — вар'яты. Нават фільм зрабіць было вельмі складана, а яны хочуць п'есу! Але ж зрабілі. Спектакль паказвалі тры разы пры поўнай зале. І я нават іграў у гэтай п'есе — маю любімую ролю бамжа. Гэтую ж ролю іграў і ў фільме. Але там я адбымаў галоўнага героя 18 разоў — рэжысёр ніколі не быў задаволены. Іншая справа на сцэне, дзе ўсё трэба рабіць з першага разу. Але пра тое, каб самому напісаць п'есу… Не стану гэтага рабіць — не ўмею. Я проста хімік. Мне цяжка нават сцэнарый для фільма напісаць. Не хачу губляць час на тое, чаго не ведаю і не магу.

### «ХАЧУ ВЫДАЦЬ КНІГУ НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ»

Я заўважыў, што ў беларускіх кнігарнях мала кніг на беларускай мове. Але для краіны вельмі важна захаваць родную мову. Што лучыць людзей адной краіны? Гісторыя, мова і агульны вораг. І я не магу зразумець, чаму так мала беларускай мовы ў Беларусі. Для мяне як для іншаземца гэта проста невераогодная гісторыя. Як так здарылася?

Калі б беларускае выдавецтва прапанавала мне падпісаць кантракт, я б з радасцю пагадзіўся. Мне б сапраўды хацелася, каб мае кнігі выходзілі на беларускай мове. Але я супраць перакладу з рускай. Я хачу, каб перакладчык працаваў з арыгіналам. Пераклад перакладу — гэта жахліва: столькі бітаў інфармацыі губляецца!

### «НОВЫ ФІЛЬМ ЗДЫМУЦЬ У БЕЛАРУСІ»

Экранізацыя «Адзіноты ў сеціве» мне не падабаецца. Сам па сабе фільм цудоўны, ладны з тэхнічнага пункту гледжання, і працаваў над ім лепшы польскі аператар, але як адаптацыя кнігі фільм дрэнны. Я шмат пра гэта ведаю, бо рэжысёр не пакінуў гледачам свой электронны адрас, і ўсе крытыкі пісалі мне. Я быў вінаваты ва ўсім. А днямі я даведаўся, што пачынаецца праца над экранізацыяй двух маіх аповедаў з кнігі «Каханка»: «Сіндром Ундзіна» і «Анарэксія неўрозу». Рэжысёр фільма жыве ў Мінску. Імя яго Глеб. Фільм будзе здымацца збольшага ў Беларусі, аднак праект мусіць стаць беларуска-руска-нямецка-польскім.

**P. S.** Напрыканцы гутаркі пан Вішнеўскі і адзін з журналістаў заспрачаліся: чый паэт Міцкевіч? Урэшце польскі пісьменнік рэзюмаваў: галоўнае, што Адам Міцкевіч — добры паэт. Астатняе не мае значэння.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

*Лёсы людскія*

# Вінаватым сябе не прызнаў

Дакументы ўдзельніка Першай сусветнай і грамадзянскай войнаў Вячаслава Міховіча прынёс у Драгічынскі ваенна-гістарычны музей імя Д. Удовікава жыхар райцэнтра, праўнук Вячаслава Сідаравіча Юрый Міховіч, які цікавіцца гісторыяй і збірае матэрыялы пра сваіх продкаў.

Нарадзіўся Вячаслаў Міховіч у 1880 г. на хутары Дуброва ў заможнай сялянскай сям'і, вучыўся ў народным вучылішчы ў Драгічыне. Некаторыя прадметы ў яго класе вёў міравы суддзя і вядомы ў Расіі і Балгарыі педагог Тодар Мінкоў. Менавіта ён паўплываў на жыццёвы выбар Вячаслава. Пасля заканчэння вучылішча юнак паступіў у Свіслацкую настаўніцкую семінарыю. Атрымаўшы дыплом, вярнуўся ў Дуброву і адразу ж прадоўжыў вучобу ў Славянскім пансіёне, які належыў Тодару Мінкову. Разам з прадстаўнікамі балканскіх народаў рыхтаваўся да паступлення ў Віленскае юнкерскае ваеннае вучылішча, куды і быў залічаны восенню 1902 г., паспяхова здаўшы іспыты. Менавіта там зразумеў, што для яго самае галоўнае — служыць Айчыне. У 1905 г. атрымаў званне падпаручніка. Накіравалі ў 65-ы Маскоўскі пяхотны полк, у горад Холм, і прызначылі на пасаду ад'ютанта камандзіра трэцяга батальёна.


*Вячаслаў Міховіч.*

Калі пачалася руска-японская вайна, полк атрымаў загад накіравацца ў Маньчжурыю, у горад Харбін. Пасля заканчэння ваеннай кампаніі Вячаслаў Сідаравіч вярнуўся ў Холм. Падчас Першай сусветнай камандаваў ужо ротай. Полк у складзе 5-й рускай арміі вёў баявыя дзеянні ў Ліфляндыі. За чатыры ваенныя гады Вячаслаў Міховіч даслужыўся да намесніка камандзіра палка. Асабліва цяжкім быў 1915 г. У верасні ў раёне Свянцыцы (сённяшні Свіслацкі раён) немцы нечакана перайшлі ў наступленне і прарвалі фронт 5-й арміі. Рускія кінулі ў атаку 65-ы полк. Хаця рота штабс-капітана Міховіча панесла вялікія страты, ранейшую лінію абароны салдаты змаглі аднавіць. За праяўленую адвагу наш зямляк атрымаў найвышэйшую афіцэрскую ўзнагароду — Залатую Георгіеўскую зброю.

Перад лютаўскай рэвалюцыяй Вячаславу Міховічу прысвоілі званне падпалкоўніка і прызначылі начальнікам штаба палка. Калі ўлада перайшла салдацкім камітэтам, выбралі камандзірам. Вайна з Германіяй працягвалася. У гэты час полк займаў абарону па рацэ Ілукей (прыток Заходняй Дзвіны) каля латышскага мястэчка Казімірышкі. 18 лютага 1918 г. Вячаслаў Сідаравіч падпісаў апошні ў 200-гадовай гісторыі 65-га палка загад, у якім аб'явіў пра яго ліквідацыю, зняцце з сябе паўнамоцтваў камандзіра і перадачу баявога сцяга і справаводства ў архіў. Нечакана немцы, каб прыціснуць рускіх на перамовах у Брэсце, перайшлі ў наступленне і занялі Дзвінск, у якім знаходзіўся Вячаслаў Міховіч. Выпадкова амаль на два месяцы ён трапіў у палон. Вызваліўся пасля заключэння Брэсцкага міру.

Сваю сям'ю В. Міховіч знайшоў у Смаленску. На наступны дзень з'явіўся ў штаб Заходняй ваеннай акругі, каб далажыць пра расфарміраванне палка. Новае савецкае камандаванне накіроўвае яго ў штаб Чырвонай арміі для здачы дакументаў. Праз некаторы час, прайшоўшы кароткія курсы перападрыхтоўкі, вяртаецца ў Смаленск, дзе яго як вопытнага ваенспеца прызначаюць начальнікам штаба Аршанскай групы войскаў і кідаюць на падаўленне мяцяжу, які падняў камандзір 1-га Польскага корпуса Ю. Доўбар-Мусніцкі. З узятых у палон палякаў і сваіх часцей Вячаслаў Міховіч фарміруе ў маі 1918-га 1-ю Магілёўскую рабоча-сялянскую дывізію. Калі становішча на фронце становіцца крытычным, дывізію адразу ж, без падрыхтоўкі, кідаюць у бой.

Далей наш зямляк атрымлівае загад адправіцца на Волгу і заняцца фарміраваннем у Самары і Пензе 20-й Пензенскай дывізіі. Пасля выканання задачы ў сакавіку 1919 г. разам з палкамі дывізіі накіроўваецца ў Арэнбург. На нейкі час застаецца ў штабе камандуючага 1-й арміяй Г. Гая. Але неўзабаве па яго загадзе пачынае фарміраваць асобную Башкірскую брыгаду. Потым яго накіроўваюць у Петраград для правядзення інспекцыі башкірскіх часцей. Міховіча лічаць адным з самых дасведчаных ваенспецаў па арганізацыі мабілізацыі і фарміраванні войск сярод чырвоных камандзіраў.

На пачатку 1920 г. ён вяртаецца ў Смаленск, дзе атрымлівае прызначэнне на пасаду камандзіра рэзервовых войск акругі. Усю грамадзянскую вайну побач з ім сям'я, у якой трое дзяцей. Іх жыццё праходзіць у штабным вагоне. Ад пастаянных стрэсаў цяжка захварэе жонка. Таму пасля заключэння Рыжскага міру Вячаслаў Сідаравіч, якому споўнілася сорак гадоў, вырашае звольніцца з арміі і вярнуцца на радзіму, у Дуброву, дзе яго чакаюць бацькоўская хата і радня.

Польскія ўлады не праследавалі В. Міховіча, які карыстаўся павагай і аўтарытэтам у мясцовых жыхароў. Яго тры разы запар выбіралі членам валаснай рады Драгічынскай воласці. Ён браў актыўны ўдзел у правядзенні выбараў у Польскі сойм.

У сакавіку 1941 г. Вячаслава Сідаравіча арыштавалі прадстаўнікі той самай улады, за якую ён ваяваў у грамадзянскую. У пратаколах допыту следчы Пінскага абласнога ўпраўлення НКУС больш за ўсё пытанняў задаў наконт яго палітычных поглядаў пры Польшчы. В. Міховіч і не ўтойваў, што на выбарах 1922 г. у Польскі сойм агітаваў за прадстаўнікоў нацыянальных меншасцей, у 1928 г. — за аб'яднаны спіс нацменшасцей, у 1933 г. — за ўрадавы блок беспартыйных, а на апошніх выбарах 1938 г. падтрымаў Адзіную ўрадавую партыю.

Да пачатку вайны В. Міховіча трымалі ў пінскай турме НКУС. Затым ён апынуўся ў Комі АССР, дзе яму і было прад'яўлена абвінавачванне ў тым, што, варожа настроены да савецкай улады, у 1921 г. збег за мяжу. Пражываючы ў Польшчы, накіраваў ліст Прэзідэнту Польскай рэспублікі Масціцкаму. З 1938 г. па верасень 1939 г. быў членам і каардынатарам нацыяналістычнай партыі, з 1940 г. — членам паўстанцкай арганізацыі ўкраінскіх нацыяналістаў, прытым цалкам падзяляў яе мэты — звяржэнне ўзброеным шляхам савецкай улады і стварэнне ўкраінскай буржуазнай дзяржавы пад пратэктаратам Германіі. Прыгавор так званай «тройкі» — дзесяць гадоў выпраўленча-працоўных лагераў без права перапіскі. Вінаватым сябе ні па адным з пунктаў не прызнаў. У лютым 1942 г. Вячаслаў Міховіч памёр у адной з турмаў Вятлага на поўначы Комі АССР.

Дарэчы, па тых жа следчых матэрыялах у Драгічыне была «раскрыта» цэлая падпольная нацыяналістычная арганізацыя, якая рыхтавалася ўзброеным шляхам звергнуць савецкую ўладу і далучыць Драгічыншчыну да Украіны. Да таго ж мясцовае насельніцтва гаварыла на незразумелай для прыезджых следчых мове — занадта падобнай да ўкраінскай. Усё гэта было вельмі падазроным. Ды яшчэ ў Драгічынскім павеце пры Польшчы вольна існавала культурна-асветніцкае ўкраінскае таварыства «Просвіта». Па гэтай справе ў сакавіку 1941 г. арыштавалі 12 чалавек, у асноўным актыўных удзельнікаў «Просвіты» і тых, хто адкрыта «паклёпнічаў» на савецкую ўладу. Усе яны неўзабаве апынуліся ў лагерах.

Як сведчаць дакументы, Вячаслаў Міховіч быў рэабілітаваны двойчы: 10 верасня 1957 г. генеральным пракурорам БССР і 18 верасня 1989 г. Пастановай пракуратуры Брэсцкай вобласці з фармулёўкай «спыніць справу за адсутнасцю складу злачынства». Такі трагічны лёс выдатнага афіцэра, героя Першай сусветнай вайны, актыўнага змагара за савецкую ўладу падчас грамадзянскай вайны.

**Сяргей ГРАНІК**

*Незабыўнае*

# Сустрэча з Машэравым

**Таццяна ДЗЕМІДЗЕНКА**

Адбылася гэта падзея ў маім жыцці ў 1967 годзе. Працавала я тады ў Інстытуце цепла- і масаабмену імя А. В. Лыкава АН БССР. Жыллём для маёй і яшчэ чатырнаццаці сем'яў служыў у той час барак, які калісьці збудавала Акадэмія навук БССР для паддоследных жывёл. Атрымалася так, што засялілі яго адзінокімі аспірантамі, з часам пачалі размяшчаць тут і сямейных супрацоўнікаў. Разам з мужам і дзіцём атрымалі пакой плошчай 10 квадратных метраў. Але пасля чужых кватэр мы адчувалі сябе гаспадарамі і былі бязмерна шчаслівымі!

У 1961-м нарадзілася яшчэ адно дзіця. Давялося ўзяць да сябе малодшую сястру, каб было каму глядзець немаўля, калі сыходзіла на працу. На кухні ў нас было 15 гаспадынь, аднак жылі вельмі дружна. Ацяпленне — печка, усе выгоды — на вуліцы, вада — толькі халодная, краны — на кухні і ў так званай «умывальні».

Спачатку я сама, потым і двухтыднёвы хлопчык трапілі ў бальніцу. У мяне выявілі ачаг сухотаў, які, дзякуй Богу, вельмі хутка загасілі. Жыццё стала невыносным, таму мы звярнуліся да кіраўніцтва Акадэміі навук з просьбай знесці барак. Але там нас слухаць не пажадалі…

Надзеі палепшыць свае жыллёвыя ўмовы ў нас не было. Бо і ў чаргу райвыканкама не бралі, лічылася, што кватэрамі мы забяспечаны. І вось у 1967 годзе ў адзін з працоўных дзён да мяне падышоў загадчык лабараторыі Зіновій Шульман і паведаміў, што наш інстытут у другой палове дня збіраецца наведаць Пётр Міронавіч Машэраў. Гэта быў адзіны шанс!

Шульман вельмі хутка напісаў тэкст ліста Машэраву ад майго імя. Машыністка, таксама жыхарка нашага барака, надрукавала яго. Ліст уклалі ў канверт і сталі чакаць Пятра Міронавіча. Пісьмо павінна была ўручыць я. Уявіце мае адчуванні ў чаканні гэтай сустрэчы! Вось Пётр Міронавіч і яшчэ некалькі чалавек зайшлі ў лабараторыю, сталі аглядаць аэрадынамічную трубу. На дрыготкіх ад страху нагах я стаяла непадалёк, чакаючы моманту, калі госці будуць выходзіць.

Калі Пётр Міронавіч наблізіўся да дзвярэй, не памятаючы сябе, з нейкім невыразным мармытаннем працягнула яму ліст. Чалавек, які знаходзіўся побач з Машэравым, тут жа ўзяў канверт і паклаў у сваю кішэню. Мяне ахапіў адчай: раптам ліст не патрапіць да адрасата. Але адбылося неверагоднае. Пётр Міронавіч абняў мяне за плечы і павольна павёў па доўгім калідоры інстытута. Я распявяла пра жыццё ў бараку. У яго словах адчувалася шчырае разуменне і чалавечы ўдзел. Наш ліст быў узяты на кантроль Цэнтральным камітэтам Камуністычнай партыі Беларусі…

Барак неўзабаве знеслі, а яго жыхары атрымалі новыя кватэры. Усе. Акрамя маёй сям'і. Кіраўніцтва акадэмічнага групкама, узлаванае маім учынкам, спаўна адыгралася на маіх нервах. На той час Інстытут меліярацыі, дзе працаваў муж, ужо не адносіўся да Акадэміі навук. Высвятленне, якая з гэтых дзвюх арганізацый павінна забяспечыць нас кватэрай, доўжылася паўгода. Мае пакуты скончыліся дзякуючы яшчэ аднаму чалавеку — загадчыку кватэрным аддзелам Першамайскага райвыканкама Кандрашову. Пайшла да яго на прыём, пра ўсё распавяла. Пытанне было вырашана станоўча.

# Імпрэза ў гонар паэтэсы

Паэтэса Ніна Кавалёва ў апошнія гады не прысутнічае на аўтарскіх вечарах, на прэзентацыях сваіх кніг. І хоць Ніна Дзмітрыеўна не можа нават аловак трымаць у руках, яе сэрца поўніцца аптымізмам і натхненнем.

**Міхаіл УЛАСЕНКА**

Як жа яна піша вершы і паэмы, музыку да сваіх твораў? Вусна. Усё выдатна запамінае, а потым гатовыя тэксты пад дыктоўку запісваюць яе блізкія, сябры, суседзі…

Адна з яе найбліжэйшых сябровак, Людміла Дзеружкова, супрацоўніца Горацкага гісторыка-этнаграфічнага музея, старшыня народнага літаратурнага аб'яднання «Роднае слова», напярэдадні дня нараджэння паэткі прапанавала адрадзіць напаўзабытыя старадаўнія традыцыі і правесці адмысловую вечарыну. Параілася з кіраўніком маладзёжнага цэнтра «Імпульс» Наталляй Авакуменка, якая часта ладзіць падобныя мерапрыемствы. Ніна Кавалёва з запалам прыняла прапанову, бо даўно марыла пачуць уласныя творы, а заадно зрабіць прыемнае шматлікім суседзям. Для самых дарагіх ёй людзей былі падрыхтаваны вершаваныя прысвячэнні, сяброўскія гумарыстычныя эпіграмы, напісаны новыя песні…

Падчас гэтай імпрэзы Ніне Дзмітрыеўне ўручылі чарговую ўзнагароду — Дыплом I ступені абласнога літаратурнага конкурсу «Душа ў запаветнай ліры», прысвечанага памяці Аляксандра Пушкіна. Паэтэса яшчэ і спашукальнік Міжнароднай прэміі «Філантроп»: сертыфікат падпісалі заслужаныя дзеячы культуры і мастацтва Надзея Бабкіна, Юрый Саломін, Генадзь Гладкоў, іншыя расійскія і беларускія знакамітасці...

На імпрэзе было шмат дзяцей. Яны таксама ў гэты дзень весяліліся, танчылі ля пад'езда, разгадвалі мудрагелістыя вершаваныя загадкі, якія склала добрая цёця Ніна.

# Вечарынка з Паўлінкай



Фота Наталлі Купрэвіч

Святкаванне ў Радашковічах 100-годдзя пастаноўкі п'есы Янкі Купалы «Паўлінка».

**Летась беларусы ва ўсім свеце шырока адзначалі 130-годдзе з дня нараджэння Янкі Купалы і 100-годдзе напісання п'есы «Паўлінка». Сёлета юбілеі працягваюцца — 100 гадоў з публікацыі трэцяга зборніка вершаў паэта «Шляхам жыцця» і 100 гадоў з дня першай пастаноўкі «Паўлінкі». Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы наладзіў 15 жніўня ў Радашковіцкім цэнтры культуры і адпачынку «Вечарынку ў Паўлінкі» з нагоды 100-годдзя пастаноўкі п'есы.**

Купала стаяў ля вытокаў нацыянальнай драматургіі, стварэння і развіцця беларускага тэатра. Трыумфам беларускага тэатральнага мастацтва стала знакамітая камедыя Янкі Купалы «Паўлінка». Прэм'ера п'есы на беларускай зямлі адбывалася менавіта ў Радашковічах 15 жніўня 1913 года. Сімвалічна, што праз 100 гадоў Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы адкрыў там выстаўку «Янка Купала і тэатр».

Лёс Янкі Купалы цесна звязаны з Радашковічамі. У мясцовым касцёле 12 ліпеня 1882 года Купалу хрысцілі. У 1903 годзе ён працаваў тут пісарам судовага следчага. П'еса была напісана 3 чэрвеня 1912 года на хутары Акопы Лагойскага раёна Мінскай вобласці. Праз год Янка Купала перадаў тэкст камедыі драматычнаму гуртку ў Мінску. Заснавальнікамі гэтага калектыву былі Флараян Ждановіч, Ігнат Буйніцкі, Алесь Бурбіс. Яны меркавалі адкрыць у Мінску беларускі прафесійны тэатр, але афіцыйныя ўлады не далі дазволу. Драмгурток пад кіраўніцтвам Ждановіча паставіў «Паўлінку», але пастаноўку забаранілі. Толькі дзякуючы намаганням Аляксандра Уласава і самога Купалы быў атрыманы дазвол на паказ спектакля ў Радашковічах, які адбыўся ў будынку мясцовай пажарнай дружыны. Так Радашковічы, разам з Вільняй і Санкт-Пецярбургам, увайшлі ў тройку першых мясцінаў, дзе была пастаўлена п'еса Песняра.



Фота Наталлі Купрэвіч

Помнік Янку Купалу ў Радашковічах.

Дзейныя асобы п'есы мелі сваіх прататыпаў. Веданне жыцця блізкіх і далёкіх вёсак, засценкаў, фальваркаў паслужылі штуршком для стварэння яркіх вобразаў «Паўлінкі». Сёння «Паўлінка» — візітная картка Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы.

Праз 100 гадоў у Радашковічах Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы правёў творчую сустрэчу з акцёрамі Купалаўскага тэатра Марыяй Захарэвіч і Паўлам Яскевічам, адбылося урачыстае ўскладанне кветак да помніка пісьменніка, фальклорныя калектывы «Гуда» і «Рада» адарылі ўсіх прысутных музыкай і спевамі, кожны госць мог пачаставацца святочным тортам і паўдзельнічаць у танцах, што ладзіліся на вячорках 100 гадоў таму.

«Паўлінка» ўвайшла ў залаты фонд беларускай драматургіі, стаўшы яе класікай. І вось ужо 100 гадоў жамчужынай зяяе на сцэнах тэатраў не толькі Беларусі, але і Літвы, Латвіі, Расіі, Украіны, Польшчы і нават ЗША.

**Таццяна ШЫМУК**

# У свеце фарбаў, формаў і вобразаў

**У Віцебскім мастацкім музеі працуе выстаўка жывапісу «Аўтограф на пяску» Мікалая Дундзіна. У экспазіцыю ўвайшлі творы розных часоў, у якіх можна знайсці рысы сімвалізму, футурызму, кубізму і сюррэалізму.**

Хлопчыка з вёскі Чорны Бор Чавускага раёна ужо ў маленстве цягнула да малявання. Ён пачаў займацца жывапісам у школьнай ізастудыі таленавітага настаўніка Рыгора Самойлава. Мара Мікалая здзейснілася ў 1968 годзе, калі ён паступіў на мастацка-графічны факультэт Віцебскага педінстытута. Зрэшты, многім факультэт больш вядомы як «Віцебская школа», якую заснаваў Марк Шагал, а пазней узначаліў і наш другі знакаміты суайчыннік — Казімір Малевіч.

У 1991 годзе Мікалай Дундзін быў прыняты ў Саюз мастакоў Беларусі, арганізаваў серыю выставак не толькі на радзіме, але і ў Расіі, Германіі, Італіі, Польшчы, Іспаніі, Фінляндыі, Ізраілі. Работы жывапісца знаходзяцца ў прыватных калекцыях Францыі, Канады, Фінляндыі, ЗША, Ізраіля, Германіі, Латвіі, Чэхіі, Швейцарыі, Расіі. Ёсць яны і ў калекцыях музеяў Віцебска, Мінска, Нарвы, Зялёнай Гуры, у амбасадах Югаславіі ў Чэхіі (Прага), Беларусі ў Швейцарыі (Берн), у офісе Нацбанка Беларусі ў Віцебску.

Працуючы адначасова як жывапісец, графік, скульптар і дызайнер-праекціроўшчык, Мікалай Дундзін, тым не менш, аддае перавагу жывапісу. Прыклады апошняга якраз і прадстаўлены на выстаўцы. Майстар заўжды вылучаўся індывідуальнасцю падыходу, прынцыпова пазбягаў абмежаванасці і збітасці ў сваіх творах. Пры гэтым, паводле самога Мікалая Дундзіна, эксперымент, наватарства і заўсёдны пошук — асноўныя элементы, якія вызначаюць развіццё мастака, што даволі паказальна ілюструюць прадстаўленыя на выстаўцы палотны: «Віцебская гісторыя», «Блазан», «Клеапатра», «Нацюрморт з фруктамі» і інш. Своеасаблівы містыцызм і глыбокі філасофскі падтэкст твораў Мікалая Дундзіна знайшлі яркае ўвасабленне ў гарманічным адзінстве кампазіцыі, колеру, лініі і рытмаў яго прац, у якіх спалучаюцца абстрактнасць і прадметнасць. Палотны жывапісца напаўняюць каляровасць і кантраснасць, дынаміка і энергія, смелая фантазія і цікавая вобразнасць.

Асаблівую ўвагу мастак надае хрысціянскай тэме з яе філасофіяй, пошукамі сэнсу быцця і насычаным падзеямі гісторыяй, якую можна адзначыць у серыі работ «Хрысціянскага цыкла»: драматычна-філасофскі «Хрыстос і Пілат», нечаканы, востры «Вястун», праніклівая «Плашчаніца» і трагічныя «Анёл на прывязі», «З крыжа», дзе нельга не адзначыць добрае веданне аўтарам літаратуры і міфалогіі.



Мікалай Дундзін «Надкушаны яблык», 2010 г.

Увогуле стварэнне серый вельмі характэрна для М. Дундзіна. Паводле прызнання мастака, ён заўжды працуе серыйна (мінімум дзве работы). Гэта дае магчымасць акрэсліць творчае крэда, выбраць неабходны матэрыял і, адпаведна, тэхніку выканання (акрыл, тэмпера, алей, эмаль, пастэль). Пры гэтым увесь творчы шлях Мікалая Мікалаевіча можна прасачыць, абапіраючыся менавіта на шэраг створаных ім серый з самай разнастайнай тэматыкай: ад усходняй міфалогіі да біблейскіх сюжэтаў, ад цыркавых і тэатральных матываў да знакаў задыяка. Даволі цікавай у межах выстаўкі падалася серыя работ «Поры года», кожная з якіх адлюстроўвае прыгожы жаночы вобраз. Гэта і выкананая ў лаканічных танах «Вясна» з японскімі матывамі, дзе кантраст светлага і цёмнага, цёплага і халоднага; напоўненае жывымі фарбамі «Лета», дзе адценні чырвонага і жоўтага добра дапаўняюцца сінімі танамі; вытанчаная «Зіма», дзе нечаканыя чырвона-жоўтыя колеры «ахаладжваюцца» мяккім разбелам.

Цікавымі і арыгінальнымі творамі прадсталі пейзажы і нацюрморты мастака. Напрыклад, краявіды Віцебска навяваюць лёгкі сум, які, тым не менш, удала «разбаўляецца» жывой дынамікай плям і формаў, рытмаў і каляровых суаднасін. Рамантычны «Нацюрморт для закаханых» паўстае як своеасаблівае апавяданне пра ўнікальнасць нюансаў узаемаадносін паміж закаханымі людзьмі. Арыгінальную містыку і філасофскі падтэкст можна адзначыць у касмалагічнай серыі, у якую ўвайшлі алегарычныя палотны «Сонейка», «Зорка» і «Луна». Разам са складанай кампазіцыяй тут не менш цікавая ідэя сімвалізму, паказаная як у колеры, так і ў формах, рытмах і агульнай структуры палатна.

Такім чынам, можна адзначыць шматбаковасць творчай дзейнасці Мікалая Дундзіна, які зрабіў сапраўднае адкрыццё ў інтэрпрэтацыі ідэі адзінства душы і матэрыі, перадаўшы тонкія нюансы гэтага незвычайнага ўзаемадзеяння жывой, вобразнай мастацкай мовай. Яго творы — сапраўднае свята жыцця, дзе насычаныя колеры, незабыўныя вобразы і дзівосная пластычнасць формаў аб'ядноўваюцца ў адзінае гарманічнае цэлае.

**Марыя МІНІЧ**

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by
Пры передруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.
Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку» г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2585
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 22.08.2013 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 3382
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686